РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

КОШТ 3 РУБЛІ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №12, 29 САКАВІКА 1993 ГОДА.

СЁННЯ:



■ стар. 6 — 7

БІЗНЕС І КУЛЬТУРА

■ стар. 5

27-га сакавіка адзначаўся Міжнародны дзень тэатра.

Тэатральная тэма на стар. 3, 8.

## Містэрыя з усмешкай

Дзяржаўны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь
Санкт-Пецярбургскі гістарычны музей васковых фігур
Масноўскі філіял

ГІСТАРЫЧНЫЯ АСОБЫ XVIII – XX ст.ст.

ВЫСТАЎКА ВАСКОВЫХ ФІГУР

У містэрыі апошніх стагоддзяў фігуры гэтых людзей занялі свае трывалае месца. «Сильные мира сего» заўсёды адчувалі і адчуваюць сябе галоўнымі асобамі на падмостках гісторыі.

Але парадокс у тым, што «публіка-дура» сама стварае сабе куміраў і сама з асалодаю асвіствае ўчарашніх «прымадон». Сённяшні «ферзь» на шахматным полі палітыкі заўтра можа стаць усяго толькі «пешкай», бяспраўным статыстам...

Дык што прыцягвае абываценя да размаляваных васковых фігур, часта даволі слаба падобных на прататып? Ці, напрыклад, да муміі правадыра ў маўзалеі? (Мо гэта яе васковы твар сімвалізуе сабой «чалавечы твар» сацыялізму?) Відаць, з далёкіх паганскіх часоў засталіся ў чалавечых душах рэшткі свяшчэннага жаху, змешанага з містычнай пашанай да нябожчыкаў — асабліва, калі яны пры жыцці станавіліся напаўбагамі.

Аднак жа, містэрыя вельмі лёгка абарочваецца фарсам, карнавалам. Імперыі ўжо няма, але імперскія звычкі спадкаемцаў «трэцяга Рыма» засталіся. Яны і не адчуваюць, як спробы ўваскрасіць цені мінулага выліваюцца ў атракцыён, звычайнае камерцыйнае шоу.

Іронія лёсу ў тым, што правадыры, якія лічаць звычайных людзей усяго толькі падатлівай глінай, воскам, самі, часта яшчэ пры жыцці, упадабляюцца васковым істуканам. А чалавек — з плоці і крыві — глядзіць на іх з усмешкай. Гэта ўсмешка разумення і... пазнавання саміх сябе...

# ПАНЯДЗЕЛАК: ПАДЗЕІ, ІНФАРМАЦЫЯ, КАМЕНТАР



## ЛЮДЗІ ПАД ШТАНДАРАМІ

Я ішоў на пляц Незалежнасці, месца збору святочных калон дэманстрацыі ў гонар 75-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, з нейкай раздвоенасцю ў душы. Вядома ж, у першую чаргу я хацеў далучыцца да святкавання светлага юбілею, зазначыць сваю павагу да ідэалаў БНР і аддаць даніну памяці яе дзеячам. З другога боку, прафесійныя абавязкі журналіста не дазвалялі забыцца на тое, што чытачы чакаюць адлюстравання падзеі на старонках нашай газеты, а таму ўвесь час не пакідала крыху трывожная думка — як напісаць? Як лепш перадаць атмасферу сапраўднага свята? Як данесці да чытача сутнасць з'явы, якая вывела ў нядзелю на вуліцы Мінска тысячы і тысячы людзей?

І — бывае ж так! На паляўнічага, як той казаў, і звер бяжыць. На пляцы я сустрэў свайго аднакласніка, якога не бачыў ужо гадоў сем. Павіталіся, загаварылі і раптам я зрабіў адкрыццё: хлопец размаўляў са мной ПА-БЕЛАРУСКУ!

Зразумейце правільна маё ўзрушэнне і здзіўленне. Прафесійную цікавасць журналіста звычайна прыцягваюць лідэры — тыя, хто вызначае палітыку, хто вядзе за сабой іншых. Бывае, каюся, што, наслухаўшыся ў чарговы раз нашых парламентарыяў, пацiскаўшыся ў чэргах бліжэйшай крамы, пачытаўшы наш друк, часам лаўлю сябе на думцы, што да нацыянальнага менталітэту, да разумення жыццёвай неабходнасці нацыянальнага Адраджэння «дараслі» ў Рэспубліцы Беларусь нямногія. Сярод іх — людзі, якія з дзяцінства траплялі ў беларускі асяродак. Інтэлігенты, якія разумелі жыватворныя нацыянальныя карані любой творчасці. Палітыкі, якія бачаць перспектыву свайго народа ў нацыянальнай ідэі.Скажу болей, іншы раз песімістычны настрой да таго перапаўняе душу, што хоць сапраўды ў Аўстралію падавайся — там,кажуць, што ні беларус, то свядомы. І вось — Андрэй. Хлопец са звычайнай інжынерскай сям'і. Скончыў звычайную мінскую школку з дзвюма гадзінамі беларускай мовы на тыдзень. Працуе на заводзе халадзільнікаў. Колькі сябе памятаю, яго адзінай страсцю быў футбол, і не толькі тэарэтычна — гуляе ён у яго ці не на прафесійным узроўні.

І — чысцюткая беларуская мова. І — свядомы ўдзел у святкаванні слаўнага юбілею.

— Не, я ні да якой партыі не належу, ні ў якую суполку не ўваходжу. Проста палічыў патрэбным прыйсці сёння сюды, бо дзень 25 сакавіка надзвычай важны для нашай гісторыі, для нашага лёсу. Мне падаецца вельмі важным зладжанае, усеагульнае святкаванне гэтага юбілею. Мне здаецца важным прадэманстраваць тое, што мы існуем, жывем, памятаем і імкнемся наперад, да лепшай будучыні, — адказаў ён.

І, ведаеш, паважаны чытач, я зразумеў, пра што напісаць. Нават не пра гістарычную значнасць угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, без утварэння якой не існавала б ні БССР, ні сённяшняй незалежнай Беларусі. Не пра палітычны кантэкст акцыі, якая прадэманстравала рашучасць беларускага народа адстойваць сваю волю і дзяржаўнасць ад любых правакацый. Не пра адкрытую апазіцыю ўраду краіны, які, як неаднаразова падкрэслівалася на мітынгу, узяў курс на антыканстытуцыйную ліквідацыю нашага нейтралітэту ў ваеннай справе і нашай незалежнасці ў плане палітычным.

Пісаць трэба пра людзей, якія ішлі пад бел-чырвона-белымі штандарамі.

Пра іх колькасць... Пра іх святочны настрой... Пра іх усмешкі і жарты... Пра іх песні... Пра іх рашучасць і адданасць...

Пра народ, які ўжо абудзіўся і моцна-моцна змяніўся літаральна за апошнія пяць гадоў. Пра народ, які абраў свой шлях і з яго ўжо не зверне.

**Максім ГІЛЕЎСКІ.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА.**




### У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ...

- 3 красавіка ў Мінску ў Доме ветэрана адбудзецца канцэрт групы «Зарціпо», якая працуе ў жанры інструментальнай рок-музыкі. Разам з беларускімі артыстамі выступіць Гі Беціні, швейцарскі музыкант, вядомы ў еўрапейскай джазавай эліце віртуознай ігрою на трубе, флюгельгорне, флейце.

- 27 сакавіка ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я.Коласа адбыўся тэатральна-канцэртны марафон, з удзелам майстроў эстрады, артыстаў тэатра і гуртоў мастацкай самадзейнасці.

  Мэта марафона — збор сродкаў для рэканструкцыі старога горада Віцебска і будаўніцтва музея тэатральнага мастацтва. У Міжнародны Дзень тэатра (27 сакавіка) Міністэрства культуры вырашыла падарыць музею Віцебска бюсты выдатных майстроў мастацтва Пэна і Шагала.

*Як вядома, імёны двух сыноў беларускага народа - Сымона Буднага і Максіма Гарэцкага ўнесены ў Каляндар ЮНЕСКО на* **1993 год.** *Сакратарыят Камісіі РБ па справах ЮНЕСКО перадаў у рэдакцыю газеты гэты Каляндар, каб азнаёміць беларускага чытача з імёнамі іншых прадстаўнікоў сусветнага супольніцтва, гадавіны якіх шырока адзначаюцца ў розных краінах свету.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| **СТУДЗЕНЬ** | | | |
| 1 | Карэл ДВОРЖАК | Чэшскі скульптар і педагог | 100-годдзе з дня нараджэння |
| 10 | Нікалаўс АЛАХУС | Вядомы ў Еўропе гісторык і гуманіст-асветнік. Адстойваў у сваіх творах адзінства трох румынскіх правінцый: Малдавіі, Валахіі і Трансільваніі | 500-годдзе з дня нараджэння |
| 13 | Сымон БУДНЫ | Беларускі гуманіст, філосаф, паэт, гісторык і філолаг | 400-годдзе з дня смерці |
| **ЛЮТЫ** | | | |
| 6 | Карла ГАЛЬДОНІ | Італьянскі драматург, нарадзіўся ў Венецыі, апошнія 30 гадоў свайго жыцця пражыў у Францыі і напісаў шэраг сваіх твораў на французскай мове, напрыклад, «Буркатлівы дабрачынца». Ягоныя камедыі зрабілі значны ўплыў на рэформу гэтага жанру ў канцы XVIII стагоддзя | 200-годдзе з дня смерці |
| 7 | Ігнасіо Мануэль АЛЬТАМІРАНА | Паэт-гуманіст, заснавальнік педагагічнай вучэльні ў Мехіка. У якасці афіцыйнага кіраўніка Міністэрства развіцця садзейнічаў стварэнню астранамічных і метэаралагічных абсерваторый. Да ліку ягоных заканадаўчых прац адносіцца «Прынцыпы бясплатнага, свецкага і абавязковага пачатковага навучання». Выдатны дзеяч мексіканскай літаратуры XIX стагоддзя | 100-годдзе з дня смерці |
| 8 | Максім ГАРЭЦКІ | Беларускі пісьменнік, вучоны, літаратурны крытык, фалькларыст і перакладчык | 100-годдзе з дня нараджэння |
| 8 | Усевалад ПУДОЎКІН | Рускі кінарэжысёр, тэарэтык кіно | 100-годдзе з дня нараджэння |
| **САКАВІК** | | | |
| 7 | Жуль ФЕРЫ | Французскі дзяржаўны дзеяч, садзейнічаў арганізацыі і распаўсюджванню пачатковай адукацыі | 100-годдзе з дня смерці |
| 29 | Канстанцін ТРУТОЎСКІ | Украінскі жывапісец і графік, ілюстратар твораў выдатнага ўкраінскага паэта Т.Р.Шаўчэнкі | 100-годдзе з дня смерці |
| **КРАСАВІК** | | | |
| 7 | Васілій ВАСІЛЬКО | Украінскі тэатральны рэжысёр, акцёр, педагог | 100-годдзе з дня нараджэння |
| 15 | В.Я.СТРУВЭ | Астраном і геадэзіст, першы дырэктар Тартускай і Пулкаўскай астрафізічных абсерваторый | 200-годдзе з дня нараджэння |



Адна з найбольш знамянальных падзеяў наступнага года — 200-годдзе паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі. Дарэчы, Т.Касцюшка паходзіў са старадаўняга беларускага роду, у якім запісы сямейных архіваў вяліся на беларускай мове.

Задача аднавіць дом Т.Касцюшкі ў Мерацоўшчыне была амаль невырашальнай — чарцяжы яго захаваліся ў Польшчы. Але ў выніку намаганняў Скарынаўскага Цэнтра, Міністэрства культуры РБ і пасольства Польшчы архітэктурныя планы дома Т.Касцюшкі былі перададзены на Беларусь.

*На здымку:*
пасол Э.Смулэк, першы сакратар пасольства М.Галкоўскі перадаюць дакументы міністру культуры РБ Я.Вайтовічу. Фота Г. ЖЫНКОВА.

# ПРА ТАЛЕНТЫ І ГРОШЫ...

«Не хлебам адным», «Хлеба і відовішчаў!» — з праку вякоў дайшлі да нас гэтыя выслоўі. І сімвалічна, што на пачатку вясны, у час, калі араты рупіцца на толькі-толькі вызваленай з-пад снегу глебе, на высокім узроўні калегіі Міністэрства культуры адбылося абмеркаванне «стану і вынікаў дзейнасці прафесійнага мастацтва ў 1992 годзе» (менавіта так фармулюецца ў афіцыйных дакументах калегіі). У пасяджэнні бралі ўдзел кіраўнікі большасці адпаведных устаноў, у прыватнасці, тэатраў, канцэртных арганізацый. Аўдыторыя ўважліва выслухала прамову намесніка міністра культуры Уладзіміра Рылаткі, у якой аглядаліся асноўныя накірункі стратэгіі ў галіне прафесійнага мастацтва. Прамоўца зазначыў, што неабходна пазбыцца стэрэатыпу існавання абавязковай для выканання дзяржаўнай палітыкі, бо «талент у мастацтве бачыць і фармуе духоўныя ідэалы, якія становяцца арыенцірамі грамадскага жыцця і ў выніку — зместам дзяржаўнай культурнай палітыкі», што асноўная мэта міністэрства — «асэнсаваць, падтрымаць і стварыць умовы для распаўсюджвання мастацкіх ідэй, якія могуць стаць нацыянальнымі здабыткамі. Менавіта мастацкія вобразы оперы «Князь Наваградскі» (кампазітар А.Бандарэнка, лібрэта В.Іпатавай), спектакляў «Звон — не малітва» (п'еса І.Чыгрынава, пастаноўка ў тэатры Я.Купалы), «Залёты» (п'еса В.Дуніна-Марцінкевіча, пастаноўка ў тэатры Я.Коласа), «Дзіця з Віфлеема» (пастаноўка М.Пінігіна ў тэатры-студыі кінаакцёра), творы многіх нашых мастакоў даюць магчымасць асэнсаваць новую ідэалогію беларускай дзяржавы. У яе аснове — еўрапейскі гуманізм, але не запазычаны ў далёкіх і блізкіх суседзяў, а той, што адраджаецца з глыбіняў народнай гісторыі. У яе аснове нацыянальная і сацыяльная згода. У гэтым ёсць сэнс адраджэння, у гэтым — сэнс творчых здабыткаў беларускага мастацтва апошняга часу».

Прамоўца не абышоў увагай культурныя падзеі мінулага года: прэм'еры, фестывалі, конкурсы, выставы. Былі прааналізаваныя многія праблемы: рэпертуару, падрыхтоўкі спецыялістаў, фінансаў і — самая важная — выкананне закону «Аб мовах». Вялікая частка прамовы тычылася новых прафесійных устаноў, новых будынкаў ужо існуючых тэатраў, якія, нягледзячы на эканамічны крызіс, адчыніліся ў многіх кутках Беларусі.

Былі прыведзены цікавыя лічбы, у тым ліку — колькасць наведванняў культурных устаноў на 1000 жыхароў Беларусі. Так, у 1990 годзе было 709 наведванняў, у 1991 — толькі 352, а ў 1992 — 739. Будзем спадзявацца, што 1992 год стаў паваротным.

Асобныя раздзелы прамовы апавядалі пра музычнае і відарыснае мастацтва. «Закрыты конкурс на лепшыя працы на выставе «Жыве Беларусь!», апошнія экспертныя камісіі па музыцы прадэманстравалі, што нарэшце быў пераадолены бар'ер неразумення таго, што без элітарнай музыкі, жывапісу, актыўнага пошуку выразнай формы немагчыма рухацца наперад». На заканчэнне прамоўца прапанаваў абмеркаваць праблемы: «мастацтва і ідэалогія новай дзяржавы, мастацтва і глядач, творчая моладзь і яе лёс, неабходнасць умацавання фінансавай дысцыпліны, выхаванне ў дзеячаў мастацтва пачуцця нацыянальнай годнасці».

У абмеркаванні бралі ўдзел многія прысутныя. Амаль кожны выступ акрэсліваў новыя, спецыфічныя бакі прафесійнага мастацтва. Мы вырашылі спыніцца на выступленнях тых, хто працуе не ў сталіцы, бо, натуральна, ім цяжэй дайсці да рэспубліканскага чытача. Так, напрыклад, дырэктара Брэсцкага драматычнага тэатра Аляксандра Козака найбольш хвалюе «вымыванне» талентаў з правінцыйных тэатраў. Прамоўца прапанаваў замацаваць у новым Статуце аб тэатры кантрактную сістэму аплаты працы, якая дазволіла б падвышаць заробак да некалькіх ставак тым людзям, якія з'яўляюцца залатым фондам таго ці іншага калектыву. Падобная сістэма дапамагала б захоўваць таленты ў несталічных трупах.

Свае праблемы і ў цыркаў, асабліва калі ўлічыць, што гэтыя ўстановы толькі напрыканцы 1991 года перайшлі з падпарадкавання Маскоўскаму «Дзяржцырку» ў сістэму Міністэрства культуры РБ. Дырэктар Гомельскага дзяржцырка Якаў Лабовіч адзначыў, што з таго часу, як пры міністэрстве стварылася секцыя цыркавога мастацтва, удалося многае зрабіць: захаваць у Гомелі гэтае выдатнае відовішча, паставіць першыя два беларускія нумары. У бліжэйшыя сезоны плануецца падрыхтоўка беларускага цыркавога калектыву, які, несумненна, адыграе сваю ролю ў адраджэнні нашай культуры. Гомель — горад значна меншы за Менск, а таму часцей даводзіцца мяняць праграму, ды й гастралёраў завабіць складаней. Яшчэ адна страта: практычна перастала існаваць сістэма аўтобуснага падвозу гледачоў, і жыхары Гомельшчыны, Брэстчыны, Чарнігаўшчыны страцілі магчымасць атрымліваць задавальненне ад прадстаўленняў...

Калегія Міністэрства культуры РБ прыняла пастанову, у якой знайшлі адлюстраванне асноўныя пытанні, што закраналіся ў прамове У.Рылаткі і падчас абмеркавання. Спадзяёмся, што гэтыя рашэнні паспрыяюць развіццю прафесійнага нацыянальнага мастацтва.

**Наш кар.**

# БЕЛАРУСЬ — СЛАВАКІЯ

Нядаўна дэлегацыя Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь на чале з намеснікам міністра Л.Гуляка па запрашэнню Міністэрства культуры Славацкай Рэспублікі наведала сталіцу Славакіі горад Браціславу і правяла там перагаворы аб супрацоўніцтве паміж Міністэрствамі культуры дзвюх краін.

Падрыхтавана Пагадненне, у якім прадугледжваецца шырокі ўзаемны абмен дасягненнямі нацыянальных культур братніх народаў. Асноўнае месца ў гэтым Пагадненні адводзіцца фестывалям, гастролям, святам прафесійнага тэатра і музыкі, выставам выяўленчага мастацтва, абмену калектывамі народнай творчасці, выканаўцамі і пастановачнымі групамі спектакляў, арганізацыі стажыровак, семінараў, канферэнцый, пастаяннаму інфармацыйнаму абмену.

Прадугледжана таксама супрацоўніцтва ў галіне кінамастацтва, бібліятэчнай і музейнай справы, аховы помнікаў і іншае.

Толькі за апошнія два гады ў Славакіі пабывалі многія творчыя калектывы і дзеячы мастацтва і культуры Беларусі. Сярод іх — камерны хор Беларускай дзяржаўнай філармоніі, які ўдзельнічаў у традыцыйных Браціслаўскіх музычных святах, Беларускі акадэмічны тэатр імя Я.Купалы, што пабываў на гастролях у Славакіі са спектаклем «Тутэйшыя» Я.Купалы...

У сваю чаргу шэраг творчых калектываў і дзеячаў культуры Славакіі наведалі Беларусь і прымалі ўдзел у міжнародных фестывалях «Славянскія тэатральныя сустрэчы», «Студыйныя каляды — 91", мелі творчыя кантакты з навучальнымі ўстановамі, музеямі, тэатрамі і музычнымі калектывамі Беларусі.

З падрыхтоўкай Пагаднення аб супрацоўніцтве на 1993-1995гг. культурныя сувязі Славакіі і Беларусі набываюць новы размах і перспектыву.

**В.КАЛБАСІН.**



Студэнты Акадэміі музыкі РБ у вучэбным спектаклі «Цыганскі барон».
Фота Г. ЖЫНКОВА.

# ЧАС АЛЬТЭРНАТЫВАЎ

*Прыняты нядаўна Закон аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь стварыў прававыя перадумовы для дзейнасці нацыянальных культурных таварыстваў і аб'яднанняў. Дзякуючы станаўленню беларускае дзяржаўнасці, нацыянальнаму адраджэнцкаму руху, іх апошнім часам з'явілася даволі шмат. Прадстаўнікам нацыянальных меншасцей вельмі важна сёння знайсці сваё месца ў працэсе адраджэння, аб'яднаць свае намаганні на шляху стварэння прававой дэмакратычнай дзяржавы. Не губляючы пры гэтым, вядома, і сваіх спецыфічных інтарэсаў і мэтаў.*

*Пра задачы Таварыства немцаў Рэспублікі Беларусь «Адраджэнне» нашаму карэспандэнту Л.КЛЮЧНІКАВАЙ расказаў дырэктар Цэнтра нямецкай культуры на Беларусі Аляксандр МАЙСНЕР.*

**— Аляксандр Давідавіч! Перш, чым гаварыць пра таварыства немцаў і яго задачы, хацелася б пачуць, як Вы асабіста прыйшлі да ідэі яго стварэння на Беларусі? Вы нарадзіліся тут?**

— Не, я з паволжскіх немцаў. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў раённым цэнтры Ніжняя Дабрынка. У час вайны мая сям'я была выслана ў Сібір. Калі мне было пятнаццаць гадоў, я застаўся адзін. Вучыўся. Завочна скончыў тэхнікум. Потым была Ціміразеўская акадэмія. А пераддыпломную практыку праходзіў у Мінску. Тут і жыву з 1967 года. Тут скончыў аспірантуру, займаюся навуковай дзейнасцю.

**— Дык што падштурхнула Вас да стварэння таварыства немцаў?**

— Пачуццё пратэсту. З самага дзяцінства я адчуваў несправядлівыя адносіны да сябе асабіста і да нямецкай дыяспары. Пісаў пра несправядлівасць на адрас Хрушчова, потым Брэжнева... А ў 1989 годзе, калі адбылася ўстаноўчая канферэнцыя расійскіх немцаў, я выйшаў на іх структуры. Калі з'явіліся мае публікацыі па праблемах аб'яднання немцаў, адгукнуліся найперш тыя, хто жыве на Беларусі.

**— Дарэчы, колькі немцаў у рэспубліцы? І колькі людзей аб'ядноўвае сёння ваша таварыства?**

— Тых, хто нават у брэжнеўскія часы не хаваў сваёй нацыянальнасці, — тры з паловай тысячы. На самой справе немцаў, якія толькі па пашпарце лічацца рускімі ці беларусамі, разы ў тры больш. Наша таварыства зарэгістравана два гады таму і налічвае 180 чалавек. Яны ўдзельнічаюць і ў рабоце Цэнтра нямецкай культуры, які быў заснаваны летась.

**— Ці многія ў таварыстве валодаюць нямецкай мовай?**

— На жаль, добра ведаюць мову чалавек дзесяць. Але зараз мы наладзілі курсы навучання ў дзвюх групах па 16 чалавек. Заняткі праходзяць у будынку Інстытута эканомікі.

Зараз для нас праблема праблем — арэнда памяшкання. Германскія сябры гатовы дапамагчы нам з аплатай праз пасольства ФРГ у Мінску. Павінен сказаць, што і пасол і супрацоўнікі дыпламатычнага прадстаўніцтва Германіі на Беларусі выказваюць сваю цікавасць да нашай дзейнасці, хочуць дапамагчы, напрыклад, з тэхнічным абсталяваннем Цэнтра нямецкай культуры.

**— У свой час прэзідэнт Украіны Краўчук заявіў пра гатоўнасць Украіны прыняць усіх немцаў, што жылі ў СССР, і прадаставіць ім месца для кампактнага рассялення. Як Вы ставіцеся да такой прапановы?**

— Я заўсёды выступаў і выступаю за аднаўленне рэспублікі немцаў на Волзе і заклікаю сваіх суайчыннікаў садзейнічаць гэтаму. Аднак, сёння праблема аднаўлення нацыянальнай аўтаноміі зайшла ў тупік. Гэта праблема, перш-наперш, знешнепалітычная. Ехаць на Украіну не збіраюся і не лічу, што згаданая прапанова здольна даць выйсце. Вельмі востра, у тым ліку і на Беларусі, стаіць праблема эміграцыі немцаў: больш паловы з іх хацелі б зараз паехаць у Германію.

**— А як складваюцца вашы ўзаемаадносіны з іншымі грамадскімі арганізацыямі, ці дапамагаюць яны чым-небудзь у вашай дзейнасці?**

— У нас наладжаны неблагія адносіны з Цэнтрам імя Скарыны, Цэнтрам гуманітарнага супрацоўніцтва з замежнымі краінамі, Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. З боку афіцыйных уладаў, трэба сказаць, адчуваецца куды менш цікавасці да таварыства.

**— Вы гаварылі пра кантакты з пасольствам ФРГ у Мінску. А ці ёсць падобныя кантакты з пасольствам Беларусі ў Германіі?**

— На жаль, няма. Але мы мяркуем наладзіць сувязі з беларускай дыяспарай у Германіі. Думаю, гэта было б узаемакарысна...

**— Як Вы ацэньваеце Закон аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь?**

— Вядома, добра, што ў ім пералічаны канстытуцыйныя правы меншасцяў — у тым ліку нямецкай. Але ж пакуль гэта толькі словы, запісаныя на паперы...

**— Тым не менш, планы на будучыню ў таварыства і ў Цэнтра, пэўна, ёсць?**

— Так, у нас створана культуралагічная праграма, якая тычыцца мовы, гісторыі Германіі, а таксама немцаў і нямецкай дыяспары ў краінах СНД, гісторыі немцаў на Беларусі. Мы плануем пашыраць свае кантакты з Германіяй — дзелавыя, палітычныя, грамадскія, культурныя. Хочам стварыць школу з паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы па тыпу гімназіі, навучэнцаў якой можна было б пасылаць вучыцца ў ФРГ па абмене. Будзем рыхтаваць спецыялістаў у галіне менеджмента, якія змаглі б з цягам часу выйсці на камерцыйныя структуры ФРГ...

**— Дзяржавы, якая, безумоўна, з'яўляецца вельмі перспектыўным і важным еўрапейскім партнёрам для Беларусі...**

— Для мяне Германія — гэта радзіма маіх продкаў. Вельмі хацелася б пабываць там. Пакуль жа гэта толькі мара.

**P.S. На пачатку сакавіка ў Маскве адбылася ўстаноўчая канферэнцыя таварыства немцаў «Адраджэнне». А напярэдадні там прайшоў з'езд немцаў былога СССР, на якім акцэнтавалася небходнасць вырашэння пытання аб эміграцыі. Адзначалася, аднак, важнасць стварэння цэнтраў немцаў у краінах СНД, калі гэтая ідэя не падмяняе сабой аднаўлення ў перспектыве аўтаномнага ўтварэння. Заснаваны Міждзяржаўны савет немцаў былога СССР, у які ўвайшлі прадстаўнікі немцаў незалежных рэспублік і рэгіёнаў. Беларусь у гэтым савеце прадстаўляе А.Майснер. Ён увайшоў таксама ў Міждзяржаўны савет таварыства «Адраджэнне», дзе Беларусь прадстаўляюць пяць чалавек.**

Леанід ЛЫЧ
Уладзімір НАВІЦКІ

# ВЯРТАННЕ ДА НАЦЫЯНАЛЬНАГА

Зусім заканамернае з пункту гледжання законаў логікі вяртанне беларускага народа да сваіх гістарычных каранёў, духоўнай спадчыны дае падставы сцвярджаць, што, нягледзячы на цяжкія эканамічныя ўмовы, ён сёння ўпэўнена ўступае ў якасна новы этап свайго жыцця. Цыкл артыкулаў, які мы распачынаем сёння, прысвечаны складаным аспектам працэсаў Адраджэння на Беларусі.

На працягу некалькіх апошніх дзесяцігоддзяў адбываўся безупынны, ідэалагічна абгрунтаваны адпаведнымі ўстановамі працэс асіміляцыі беларускай культуры і мовы. У выніку вырасла не адно пакаленне людзей, цалкам ці ў значнай ступені адарваных ад нацыянальна-культурнай глебы, абыякавых да сваёй гістарычнай і самабытнай спадчыны, роднай зямлі. Нацыянальны нігілізм ахапіў літаральна ўсе пласты беларускага народа і самае страшнае — інтэлігенцыю, якая ў гісторыі іншых этнасаў звычайна выступае як генератар кансалідацыйных працэсаў.

Асабліва адчувальныя страты панесла беларуская мова — падмурак нашага нацыянальна-культурнага існавання. Родная мова беларусаў аказалася амаль дазвання выціснутай ледзь не з усіх сфер грамадскага жыцця рэспублікі. Гэтаму перш за ўсё садзейнічала інтэнсіўная ліквідацыя школьнай сеткі з беларускай мовай навучання, якой у сярэдзіне 80-х гадоў было ахоплена толькі 23,1 працэнта ад агульнай колькасці школ. У прафесійна-тэхнічных вучылішчах, тэхнікумах, вышэйшай школе навучанне і выхаванне вялося выключна на рускай мове. На ёй жа праводзіліся ўсе грамадска-палітычныя мерапрыемствы, справаводства, афіцыйная перапіска, развівалася навука. Такая дыскрымінацыя беларускай мовы на яе гістарычнай тэрыторыі парушала элементарныя правы чалавека, годнасць нацыі, і дзіўна, што ў гэтай архітрагічнай сітуацыі не знайшлося ніводнага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, які смела ўзняў бы свой голас у абарону мовы.

У той час, калі кіруючыя структуры Беларусі, у першую чаргу КПБ, заставаліся абыякавымі да лёсу нацыянальнай мовы, з наступленнем працэсаў дэмакратызацыі ў грамадстве ў яе абарону выступілі прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі. 15 снежня 1986г. 28 чалавек, сярод іх вядомыя ў рэспубліцы пісьменнікі В.Быкаў, Я.Брыль, Р.Барадулін, В.Вітка, В.Адамчык, накіравалі на імя Генеральнага сакратара ЦК КПСС М.Гарбачова ліст, у якім былі зроблены прапановы па карэннаму паляпшэнню становішча роднай мовы і культуры. Але партыйныя вярхі не думалі займацца пераглядам моўнай палітыкі, сведчаннем чаму з'явіліся рашэнні студзеньскага (1987г.) пленума ЦК КПСС, які нічога прынцыпова новага не ўнёс у вырашэнне нацыянальнага пытання.

Не адмовіўся ад далейшага працягу русіфікацыі і сакавіцкі (1987г.) пленум ЦК КПБ. Прызнаўшы нарэшце звужэнне выкарыстання беларускай мовы ў выніку, як тады модна было гаварыць, свабоднага волевыяўлення працоўных, першы сакратар ЦК КПБ Я.Сакалоў усё ж даволі рэзка крытыкаваў тых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, якія паспяшаліся зрабіць вывад аб нібыта няправільных адносінах да культурна-моўнай спадчыны беларускага народа ў цэлым. На пленуме беспадстаўна заяўлялася, што ў рэспубліцы створана ўсё для развіцця беларускай мовы, беларускай нацыянальнай культуры, а тым, «хто памыляецца ў гэтых пытаннях, трэба дапамагчы разабрацца».

З такой неаб'ектыўнай ацэнкай не пагаджаліся многія прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі. Таму за подпісам больш ста чалавек у Маскву быў накіраваны яшчэ адзін ліст. Прапагандуючы ў масах ідэю нацыянальнага адраджэння, у гэты час пачаўся рух за наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай. Гэта знайшло падтрымку і ў праграме Беларускага народнага фронту (БНФ) «Адраджэнне», прынятай на першым з'ездзе, які адбыўся 24-25 чэрвеня 1989г. у Вільні з-за забароны правесці яго ў Мінску. У ёй адзначалася, што БНФ «лічыць наданне беларускай мове статуса адзінай дзяржаўнай мовы БССР справай неадкладнай і разглядае гэта як неабходную асноўную меру, праз якую карэнная нацыя рэспублікі можа рэалізаваць свае права на самазахаванне».

Ідэя надання беларускай мове статуса дзяржаўнай не знаходзіла падтрымкі ў значнай часткі русіфікаваных беларусаў, якія па-ранейшаму нігілістычна ставіліся да свайго роднага слова, а таксама ў афіцыйных партыйных колах, якія бачылі ў такой ідэі праяву беларускага нацыяналізму. Узнікла вострая патрэба ў арганізацыі планамернай растлумачальнай работы аб ролі беларускай мовы ў жыцці яе носьбітаў. Па ініцыятыве пісьменнікаў і навукоўцаў распачаўся рух па стварэнні Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ). Яго ўстаноўчы з'езд адбыўся ў чэрвені 1989г. Створанаму Таварыству было нададзена імя Францішка Скарыны. Рэспубліканскую Раду ТБМ узначаліў паэт Н.Гілевіч. З сакавіка 1990г. Таварыства выдае штотыднёвую газету «Наша слова».

Адзінаццатая сесія Вярхоўнага Савета БССР адзінаццатага склікання (ліпень 1989г) утварыла камісію па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляванні статуса беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі. У выніку больш чым чатырохмесячнай працы яна падрыхтавала праект Закону «Аб мовах у Беларускай ССР». Пры яго распрацоўцы камісія выкарыстоўвала вопыт беларусізацыі 20-х гадоў, абапіралася на заканадаўчыя акты аб мовах у іншых рэспубліках, міжнародную заканадаўчую практыку.

Пасля разгляду і падтрымкі праекта ў трох пастаянных камісіях Вярхоўнага Савета БССР ён быў вынесены на ўсенароднае абмеркаванне. Больш за 20 тыс. чалавек выказалі свае прапановы і заўвагі. Усе яны былі ўважліва разгледжаны, узважаны і ў большасці сваёй улічаны пры канчатковай дапрацоўцы праекта. 26 студзеня 1990г. чатырнаццатая сесія Вярхоўнага Савета прыняла Закон БССР «Аб мовах ў Беларускай ССР», у адпаведнасці з якім беларуская мова прызнана адзінай дзяржаўнай мовай рэспублікі. У той жа час у Законе адзначаецца, што, забяспечваючы ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, рэспубліка праяўляе дзяржаўны клопат аб свабодным развіцці і ўжыванні ўсіх нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва Беларусі.

У сувязі з прыняццем Закону аб мовах, Вярхоўны Савет Беларусі даручыў Савету Міністраў БССР распрацаваць Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР, якая была прынята 20 верасня 1990г. У ёй прадугледжаны шэраг канкрэтных захадаў па адраджэнні і развіцці мовы і культуры беларускага народа, свабоднаму і раўнапраўнаму выкарыстанню моў прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі.

Так завяршылася стварэнне заканадаўчай базы адраджэння беларускай мовы. У адпаведнасці з Законам, Дзяржаўнай праграмай пачаўся складаны шлях па пашырэнні сферы беларускай мовы ў службовым справаводстве рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады, на прадпрыемствах і ўстановах. Адным з першых на яе перайшоў апарат Міністэрства культуры, яго мясцовыя структуры. Аднак у цэлым перавод службовага справаводства рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады і кіравання, прадпрыемстваў і ўстаноў на беларускую мову ажыццяўляецца вельмі марудна. Адмоўна адбіваюцца нявызваленасць некаторай часткі людзей ад шкоднага ўплыву тэорыі аб зліцці нацый і культур, непазбежным адміранні нацыянальных моў, нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці многіх беларусаў, нежаданне пераважнай большасці кіраўнікоў рэспубліканскага і абласнога маштабаў, дырэктараў прадпрыемстваў і ўстаноў перайсці на родную мову карэннага насельніцтва. Вельмі мала змястоўных беларускіх перадач на радыё і тэлебачанні Рэспублікі Беларусь. Да таго ж многім перадачам не хапае прафесіяналізму, новых падыходаў да асвятлення архіскладаных праблем адраджэння нацыянальнай культуры і гістарычнай памяці, нацыянальнага выжывання.

Нягледзячы на першыя поспехі ў адраджэнні беларускай мовы як мовы абсалютнай большасці насельніцтва рэспублікі, тут у нас непачаты край работы. У сувязі з доўгім адрывам народных мас ад сваіх гістарычных і духоўных традыцый роднае слова беларусаў з вялікай цяжкасцю ўваходзіць у іх паўсядзённую практыку. Вельмі марудна расце яго сацыяльная прэстыжнасць, што тлумачыцца адсутнасцю эфектыўнага механізму ажыццяўлення Закону аб мовах.

*(працяг будзе.)*

# А РЭШТУ — НА РАМЁСТВЫ...

Гісторыя пераконвае: там, дзе народнае мастацтва кінута на волю лёсу, яно становіцца здабыткам мінулага. Калі дзяржава не прымае належных мер па падтрымцы і ахове народнага мастацтва, яно гіне, перастае быць часткаю сучаснага культурнага працэсу. Не выпадкова ж зберажэнне і развіццё народнага мастацтва, промыслаў і рамёстваў у многіх краінах з'яўляецца справай мэтанакіраванай і прадуманай дзяржаўнай палітыкі.

На Беларусі ў апошнія гады культурная палітыка ў гэтай сферы была скіравана галоўным чынам не на вырашэнне вострых праблем народнага мастацтва, а на дэманстрацыю яго «дасягненняў». Фінансавая падтрымка народнага мастацтва і сёння яшчэ ажыццяўляецца па «рэшткавым» прынцыпе. Заўсёды не хапае сродкаў на аплату майстрам-настаўнікам, арганізацыю дамоў рамёстваў, забеспячэнне студый абсталяваннем і матэрыяламі. Іх не хапае таксама на закупку твораў колішніх і сучасных народных майстроў, стварэнне музея народнага мастацтва ў Мінску, паўнацэнных экспазіцый традыцыйнай культуры ў абласных і раённых гісторыка-краязнаўчых музеях. Не дзіва, што народнае мастацтва знаёмае нашаму грамадству ў асноўным па сувенірнай прадукцыі, вырабленай прадпрыемствамі мастацкіх промыслаў.

Сёння, з узнікненнем рынкавых адносін, з разбурэннем манаполіі дзяржаўнага гандлю цікавасць да мастацкіх вырабаў з боку суайчыннікаў і замежнага спажыўца стварае новую перспектыву пашырэння творчай дзейнасці ў сферы народнага мастацтва. Тым не менш, працэс сучаснага адраджэння народных промыслаў і мастацкіх рамёстваў ідзе стыхійна. У цяжкім эканамічным становішчы апынуліся прадпрыемствы народных промыслаў ва ўмовах пераходу да рыначных адносін. Народныя майстры падпадаюць пад уладу скупшчыкаў, якія ўсё больш пачынаюць дыктаваць сваю палітыку ў гэтай сферы мастацкай творчасці. Спецыялісты амаль што страцілі магчымасць дапамогі і ўплыву на развіццё народнага мастацтва. Існуе рэальная пагроза, што з адыходам ад практычнай дзейнасці старых майстроў аблічча сучаснага народнага мастацтва ў стыхіі рынкавых адносін беззваротна страціць свой сапраўдны традыцыйны выгляд і нацыянальнае аблічча.

Відавочна, што народнае мастацтва як важнейшая частка нацыянальнай культуры павінна быць узята пад ахову дзяржавы. Ва ўмовах дзяржаўнага суверэнітэту неабходна самастойная культурная палітыка.

Канцэптуальныя асновы і праграмныя накірункі дзяржаўнай палітыкі ў галіне народнага мастацтва, промыслаў і рамёстваў упершыню распрацаваны па заказу Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь творчым калектывам, створаным пры Беларускім інстытуце праблем культуры. Праграма «Дзяржаўная падтрымка народнага мастацтва, промыслаў і рамёстваў» прапануе стратэгію і тактыку рэалізацыі асноўных палажэнняў і артыкулаў Закону «Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь», якія датычацца традыцыйнай культуры.

У праграме прадугледжаны механізм фінансавання гэтай галіны культуры, стварэнне сістэмы яе эканамічнай падтрымкі. Сярод канкрэтных напрамкаў дзейнасці Міністэрства культуры і мясцовых органаў кіравання — захаванне цэнтраў традыцыйнага народнага мастацтва і промыслаў; развіццё іх рэгіянальных асаблівасцяў; адраджэнне вясковых саматужных промыслаў, гарадскіх рамёстваў і рамесніцка-гандлёвых традыцый; каардынацыя навуковых даследаванняў у гэтай галіне; стварэнне нацыянальнага банка дадзеных і відэаархіва, новых музеяў, а таксама падрыхтоўка кадраў для гэтай сферы.

Асобную частку праграмы склалі прапановы па ўвядзенні ў Рэспубліцы нацыянальных прэмій, дыпломаў, стыпендый народным майстрам.

Ужо ў 1993 годзе на падставе дзяржаўнай праграмы прапануецца пачаць распрацоўку рэгіянальных праграм захавання, развіцця і адраджэння народнага мастацтва, промыслаў і рамёстваў. Першапачатковай распрацоўкі патрабуе сістэма прававога забеспячэння дзейнасці ў гэтай галіне — Закону «Аб народных мастацкіх промыслах і рамёствах у Рэспубліцы Беларусь», Палажэння «Аб народным майстры ў сферы мастацкай творчасці, промыслаў і рамёстваў» і іншых прававых актаў.

Праграма — гэта толькі накірунак і план дзеяння. Ажыццяўляць яе будуць людзі, ад якіх залежыць існаванне і будучыня нацыянальнай культуры. На жаль, не ўсе яшчэ асэнсавалі вялікую ролю народнага мастацтва ў нацыянальна-культурным Адраджэнні Беларусі.

Яскравы прыклад таму: у новае дапаўненне да падаткавага заканадаўства ў пералік творчых саюзаў, якія вызваляюцца ад падатку на прыбытак, не трапіў самы малады, створаны два гады таму Саюз майстроў народнай творчасці рэспублікі. Хтосьці, не прыняўшы да ўвагі прапановы камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, у апошні момант перад зацвярджэннем на сесіі палічыў «немэтазгодным» прадставіць падаткавыя льготы новаму саюзу. Вось толькі паўстае пытанне: што будзе з народным мастацтвам далей? Ці захаваем неацэнны скарб?

Вольга ЛАБАЧЭЎСКАЯ,
кандыдат мастацтвазнаўства,
кіраўнік творчага калектыву
па распрацоўцы праграмы
«Дзяржаўная падтрымка народнага
мастацтва, промыслаў і рамёстваў».






У Мінскім педінстытуце адкрылася выстава народнай творчасці, арганізаваная культурна-асветніцкім цэнтрам «Адраджэнне» сталічнага мікрараёна «Шабаны».

Фота Г. ЖЫНКОВА




## ВІНШУЕМ

*скульптара Аляксандра Пятровіча Крохалева з 50-годдзем.*

# ВЯРТАННЕ ВАНДРОЎНІКА

Толькі дзве рэчы, — сцвярджаў Кант, — вартыя здзіўлення: зорнае неба над галавой і маральны закон унутры нас.

Правыя, левыя, радыкалы, рэтраграды, камуністы, дэмакраты... Шалёны час навешвання ярлыкоў і гэтакая ж шалёная перакананасць у тым, што ярлык вызначае сутнасць чалавека. Пры гэтым начыста адкідваецца тое, што яшчэ зусім нядаўна намі ж і сцвярджалася амаль катэгарычна: чалавек складаны, яго не ўціснуць у рамкі аднназначнасці, поглядаў, меркаванняў, перакананняў. Тым больш, калі ён — Асоба. І калі ён не быў ні ў жыцці сваім, ні ў творчасці «алілуйшчыкам на гадзіну», а быў «блажэнным» (у вышэйшай ступені шчаслівым ад гэтай данасці: верыць, любіць, стварацъ), чаму ён павінен цяпер перакуліцца з ног на галаву і так глядзець на зорнае неба, пад якім да сённяшняга дня жыў, і на маральны закон унутры сябе, які ніколі не пераступаў?

Упершыню я сустрэўся з Уладзімірам Шарковым гадоў дзесяць таму ў дзівосным снежні. Напярэдадні Раства снег ішоў такі шчодра-дарны, што ў яго зачараваным кружэнні блыталіся думкі ў галаве, не выстройвалася наша гутарка.

Майстэрня яго была тады ў выяўленчай студыі «Жар-птушка» Дома творчасці дзяцей і юнацтва Партызанскага раёна Мінска. Побач з яго нацюрмортамі, пейзажамі, партрэтамі знаходзіліся работы юных студыйцаў. «Нічога, — суцяшаў я сябе, аддаючыся ва ўладу снежнаму кругавароту, — потым збяру ўсё ў клубок і разматаю роўнаю ніткай на паперы». Ды не атрымалася й потым. Як ні знітоўваў, «рваныя» ніткі заставаліся самі па сабе. Памучыўся парадкам, пакуль не ўцяміў: пакінуць іх такімі, як ёсць, бо яны складаюць той клубок, што і называецца Лёсам.

Пасля сустрэў Валодзю на вуліцы. Ён бег на злом галавы ў майстэрню. І я падумаў — ён бяжыць, каб паспець увасобіць тую адзіную лінію, што, як нацягнутая цеціва, дае палёт карціне...

Лёс яго быў няпросты, хоць на першы погляд — усё, як у іншых. Нарадзіўся ў Мінску. Вучыўся ў мастацкім вучылішчы і Тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер Акадэмія мастацтваў РБ). Служыў у войску. Першыя творчыя поспехі, выставы... Першыя негатыўныя водгукі накшталт «Калі нестае паветра і далягляду» і папрокі ў тым, што ва У.Шаркова «обычный натюрморт вызывает тревогу», а «портрет девушки» чамусьці называецца «маской». Дый як можна пісаць адзіноту ў родным доме?

Зрэшты, творчасць — рэч нетлумачальная. Калі Уладзімір свет ("мір") упершыню ахапіў, апёкся — не вачыма — душой? Калі ўпершыню ўбачыў вечнае неба з лясной паляны і зямную моц з высокага даху дома? Калі здзівіўся прыгажосці свету, роўна як і ягонай вырадлівасці? І калі прыйшло пачуццё недасканаласці ўласнага пэндзля?

Уладзімір Шаркоў — мастак складаны, не традыцыйны і тым больш не модны: хоць і працуе ў звычных жанрах пейзажа, нацюрморта, партрэта. Ірысы, фіялкі, бягоніі, яблыкі, дрэвы, сілуэты роднага Мінска, царквы, зімнее вакно з кветкамі, пяро блакітнага папугая, Браслаўскія азёры, срэбраныя трубы, паплавы, інтэр'еры майстэрні — вобразы яго палотнаў, увасобленых ўсхваляваным пэндзлем таленавітага і неспакойнага майстра.

Ёсць у творчасці мастака адзін аўтапартрэт. На фоне роднай зямлі, шэрага неба — ён сам, у сярэдневечных латах, у каўнеры з карункамі. Ён быццам вярнуўся з вандровак з тых далёкіх сівых часоў... Вярнуўся, каб сказаць людзям: час — гэта не толькі мы сённяшнія; час — гэта наша мінулае, наша памяць, наша зямля абецаваная... І — трэба любіць Час і людзей, якія ў ім жывуць. І ён — любіць.

Барыс КРЭПАК.




У. ШАРКОЎ. «ЯБЛЫК».

*УЗІРАЮЧЫСЯ Ў СТАРЫЯ ФОТАЗДЫМКІ*



Г. МУРАМЦАЎ, А. АНІКЕЙЧЫК (злева), У. СУХАВЕРХАЎ з дачкой (крайнія справа) на дэманстрацыі. Пачатак 50-х.

## ЗАВЯРШАЕЦЦА КОНКУРС

Як вядома, група беларускіх скульптараў і архітэктараў рэспублікі зараз удзельнічае ў шэрагу заказных конкурсаў на стварэнне помнікаў Максіму Багдановічу і Кастусю Каліноўскаму для Гародні, Францішку Багушэвічу для Смаргоні, Сімяону Полацкаму для Полацка, Васілю Вашчыле для Крычава.

Адначасова вядуцца работы па завяршэнні праектавання помніка ахвярам масавых рэпрэсій у лясным масіве Курапаты, а таксама Францішку Скарыне. Тэрмін завяршэння работ вызначаны — канец красавіка.

Конкурсныя праекты гэтых помнікаў будуць выстаўлены ў пачатку мая ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Саюза мастакоў РБ.

## ЛЁГКАЕ ПЯРО АЛІНЫ

Гледзячы на творы васьмігадовай мастачкі Аліны Рабінкой, міжволі ўспамінаеш Надзю Рушаву. Яе малюнкі ўражваюць дакладнасцю і лёгкасцю пяра графіка. Цікавы яе жывапіс, акварэлі. З сямі гадоў Аліна актыўна ўдзельнічае ў гарадскіх, рэспубліканскіх, міжнародных конкурсах і выставах дзіцячай мастацкай творчасці. У 1991 годзе ў Маскве на усесаюзным конкурсе «Малюнак на тканіне» ёй была прысуджана першая прэмія за дэкаратыўную кампазіцыю «Хлопчык — матылькі». Аліна ўдзельніца II і III Міжнародных конкурсаў «Падводныя фантазіі» ў Данецку.

У 1992 годзе серыя графічных твораў маленькай мастачкі была накіравана ў Расію (Ульянаўск) на выставу, прысвечаную 100-годдзю мастака А.Пластава. Летась Аліна разам з бацькамі эмігравала ў ЗША, падараваўшы вялікую калекцыю сваіх твораў бабруйскай Дзіцячай узорнай студыі выяўленчага мастацтва «Вясёлка» (кіраўнік — мастак-педагог Ігар Моцін).

Сёлета мяркуецца правесці персанальную выставу нашай таленавітай землячкі.

Любоў БІДЗЮК, г.Бабруйск.



## Калі Вы марыце

стварыць у сваёй кватэры індывідуальны інтэр'ер, жадаеце стаць уладальнікам сапраўднага твора жывапісу, жыць побач з рэчамі, выкананымі з натуральных матэрыялаў народнымі майстрамі, прыходзьце, калі ласка, у Карцінную галерэю салона-магазіна Саюза мастакоў Беларусі, што па вуліцы К.Маркса,8.

Тут вы маеце магчымасць пазнаёміцца з малымі персанальнымі выставамі вядомых беларускіх мастакоў — П.Масленікава, А. і І.Бархатковых, В.Грамыкі, Р.Несцерава, А.Шастакова, В.Сулкоўскага, В.Васільева і інш. І не толькі пазнаёміцца, але і заказаць, набыць твор для Вашай кватэры або офіса, а таксама заказаць аўтарскі партрэт.

У нас Вы можаце набыць вырабы народных майстроў, якіх ведаюць не толькі ў краінах СНД, але і далёка за іх межамі. З вялікім поспехам прайшлі выставы з правам продажу ў Італіі, Англіі, Польшчы, Балгарыі, Францыі такіх выдатных майстроў, як Л.Главацкая, А.Грэсь, А.Саламянка і шмат якіх іншых. Вырабы народных майстроў уключаны ў экспазіцыі вядомых музеяў свету.

Шаноўнае спадарства! Набываючы творы жывапісу, графікі, дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва ў нашай Карціннай галерэі, вы становіцеся ўладальнікамі унікальных музейных твораў!



## ВЫСТАВЫ

У Мінску, у Рэспубліканскай мастацкай галерэі — новая экспазіцыя. Днямі тут адкрылася выстава мастацкай суполкі «Пагоня», прысвечаная 75-годдзю ўтварэння БНР.

*На здымку:*
Сяргей Цімохаў. «Даждбог».

# АД КАРНАВАЛУ — ДА ЗМАГАННЯ ДУШЫ

Карціны Уладзіміра Ткачова вылучае экспрэсія і гратэск. Ягоная творчасць натуральна паядноўвае сучаснасць з неўтаймаванай стыхіяй карнавалу, які бытцам абрынуўся з глыбінь сярэднявечча на палотны мастака.

У працах Уладзіміра Ткачова мы бачым сапраўдныя карнавальныя шэсці (трыпціх «Францішку Скарыне прысвячаецца»), неверагодныя птушыныя расправы над чалавекам (серыя «Людзі і птушкі»), нечаканы візіт да нас «Карабля дурняў» (карціна «Карабель»).

Уладзімір Ткачоў уваскрашае святочную паэтыку, якой уласцівыя матывы гульні, вастрыня кантрастаў, саюз фарса і камедыі. Блазны — ці героі, якія ўзялі на сябе гэтую ролю ("Прадстаўленне"), — не толькі смешныя. Праз іх фарсавае аблічча праглядвае знак бяды і бездані. Так выяўляюцца адносіны мастака да трагічнай сутнасці чалавека.

На палотнах Уладзіміра Ткачова нават пабытовыя рэчы, з'явы прыроды набываюць духоўную значнасць і на роўных удзельнічаюць з людзьмі ў сакральным свяце ("Партрэт са сланечнікам").

Біблейскі цыкл мастака ўражвае сваёй наіўнасцю і дыдактыкай, якая ідзе ад народнага тэатра, батлеечных паказак. Апосталы на яго карцінах — простыя людзі з народа, зусім падобныя да герояў святога Дабравесця. На іхніх тварах адбіваецца драматычнае змаганне духоўнага з цялесным. Яны нагадваюць людзей, якія пачынаюць бачыць...

Тое містычнае, што ледзь адчуваецца ў паўсядзённасці нашага жыцця, знаходзіць сваё ўвасабленне ў творчасці мастака.

Ларыса САЛОДКІНА.



У. ТКАЧОЎ. «Шэсце». 1991 г.

# «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!» - 93

Калегія Міністэрства культуры, Рада Саюза мастакоў, аб'яднанне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Прэзідыум праўлення Беларускага фонду культуры прынялі пастанову аб правядзенні агульнарэспубліканскай мастацкай выставы «Жыве Беларусь!» у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня, прысвяціўшы яе першаму з'езду беларусаў свету.

На выставе плануецца паказаць новыя творы жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, плаката, створаныя беларускімі мастакамі за апошнія пяць гадоў, якія раней не экспанаваліся на іншых выставах.

Да ўдзелу ў выставе запрашаюцца мастакі-беларусы, якія жывуць па-за межамі Рэспублікі. Члены Саюза мастакоў і члены маладзёжнага аб'яднання СМ Рэспублікі Беларусь могуць удзельнічаць на выставе на конкурснай аснове, прадстаўнікі замежжа (мастакі-беларусы) дзвюма работамі па-за конкурсам.

Будзе зацверджаны склад аргкамітэта, а таксама рабочы план. Адказным асобам прапанавана вызначыць тэрмін і правесці пасяджэнні экспертных камісій па адбору рэкамендацый на заключэнне дагавароў на стварэнне новых мастацкіх твораў да гэтай выставы.

У рамках выставы прадугледжана вызначыць яе лаўрэатаў па квоце: жывапіс — 3 месцы, графіка — 2, скульптура — 1, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва — 3 месцы. Будзе зацверджаны склад журы, а таксама надрукаваны буклет, прысвечаны лаўрэатам выставы «Жыве Беларусь!» - 93.

Фінансаванне выставы ажыццяўляецца за кошт сродкаў Міністэрства культуры, Саюза мастакоў, Беларускага фонду культуры. Аўтары-лаўрэаты выставы атрымаюць прэміі па 10 тысяч рублёў.

*З 1-м красавіка!*



А. КІШЧАНКА. Аўтапартрэт. 1963 г.

*БЫЛО*

# ЯК НАРАДЗІЛАСЯ КАРЦІНА

Зважаючы на набліжэнне 1-га красавіка, хочацца падзяліцца з чытачамі ўспамінамі пра адзін забаўны факт з мастакоўскага жыцця.

Неяк у майстэрні на мансардзе Леаніда Шчамялёва мы павялі размову пра «Трох мушкецёраў». Падлічылі, што Атос, седзячы ў скляпенні разам з Грымо, выпіваў за дзень 12 бутэлек віна. Мы таксама купілі 12 бутэлек «Пладова-ягаднага» па 98 капеек. Выпілі — шклянку за шклянкай, закусваючы смажанай стронгай і вугром. На хлеб, праўда, не хапіла. Потым пазычылі грошай і ўзялі яшчэ 6 бутэлек. Выпілі. Пазычылі грошай зноў і зноў купілі віна... Збіліся з рахунку і пад вечар заснулі. Леанід —на канапе, я — на падлозе, проста на чыстым грунтаваным палатне. Потым на ім з'явілася карціна «Маё нараджэнне». Ішоў 1966 год.

Б.К.




Міхась Мушынскі

# СЛОВА ПРА МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

Максім Гарэцкі, калі браць яго шматгранную дзейнасць у шырокім гістарычным абсягу, паўстае як велічная, маштабная, эпахальная фігура пісьменніка-грамадзяніна, мастака-адраджэнца, які жыў і працаваў дзеля духоўнага абуджэння і росквіту Бацькаўшчыны, дзеля прымнажэння яе славы ў цывілізаваным свеце.

Мастацкае наватарства Гарэцкага мела шырокі тэматычны, жанравы, моўна-стылёвы дыяпазон. Так, Максім Гарэцкі стаіць і ля вытокаў беларускай антываеннай прозы. Ён — адзін з выдатных пачынальнікаў дакументальна-мастацкага жанру. Яго кніга «На імперыялістычнай вайне», апавяданні «Літоўскі хутарок», «Генерал», «На этапе», «Хадзяка» — нацыянальная беларуская класіка. Такой псіхалагічнай праўдзівасці ў паказе рэальнага аблічча вайны з яе ахвярамі, жахамі і пакутамі людзей, з праявамі гераізму і чалавечага высакародства, такой глыбіні пранікнення ва ўнутраны, духоўны свет чалавека і такой паслядоўнасці ў выяўленні антымілітарысцкага пафасу, як гэта зроблена ў кнізе М.Гарэцкага, мы не знойдзем, бадай, ні ў аднаго беларускага пісьменніка 20-х гадоў. Гэта выключны па сіле эмацыянальнага ўздзеяння на чалавека твор, хвалюючы дакумент эпохі. Вядомы нямецкі перакладчык Т.Бараран сцвярджаў, што запіскі М.Гарэцкага ўвогуле адна з лепшых кніг пра першую сусветную вайну, выдадзеных у 20-я гады ў Савецкім Саюзе.

Цяжка пераацаніць і тое, што зроблена М.Гарэцкім у галіне беларускай літаратурнай мовы: у распрацоўцы новых лексічных пластоў, ва ўдасканальванні яе выяўленчых магчымасцей. Паглядзіце, як свабодна будуе пісьменнік сказ, як па-майстэрску імітуе ён стылёвую манеру старажытнай воінскай аповесці: «заслаў дым усё поле ваеннае, равуць валы вайсковыя, ірзуць коні літоўскія, гудзяць званы хаўтурныя, льецца кроў... Плачуць маткі па сынах сваіх, а дзяўчыны плачуць па любых сваіх, туга вялікая агарнула дзяцей Саламярэцка, льецца кроў». Колькі сапраўднага драматызму, унутранай энергіі ў гэтым кароткім фрагменце! Якое моцнае эмацыянальнае ўражанне пакідае створаны аўтарам апавядання малюнак!

Максім Гарэцкі — сапраўдны беларускі асветнік XX стагоддзя. Невыпадкова маштабная фігура Францішка Скарыны ўспрымалася Гарэцкім як найболей поўнае ўвасабленне рысаў нацыянальнага пісьменніка, духоўнага бацькі беларусаў. Уласныя даследчыя працы М.Гарэцкага — «Гісторыя беларускае літаратуры» (1920, 1921, 1924, 1926), «Хрэстаматыя беларускай літаратуры. XI век — 1905» (1922), беларуска-рускія і руска-беларускія слоўнікі —гэта без перабольшвання высокі грамадзянскі подзвіг вучонага-патрыёта. Цяжка пераацаніць навукова-асветнае, патрыятычна-выхаваўчае значэнне яго прац, у якіх пераканальна даведзена, што ў беларусаў былі вялікія духоўныя набыткі як красамоўнае сведчанне таленавітасці народа, невычэрпнасці яго творчых патэнцый. Вартасць «Гісторыі» ў тым, што яна маніфеставала сабой нараджэнне беларускага нацыянальнага літаратуразнаўства. На працягу аж дзесяці гадоў кніга М.Гарэцкага была адзіным падручнікам па айчыннай літаратуры для школ, вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі.

«Ахвярую сваім «Я» ва імя святога ўсім нам Ажраджэння» —гэта шчырае прызнанне з асаблівай паўнатой і дакладнасцю раскрывае маральнае і жыццёвае крэда Гарэцкага. Ідэя Адраджэння, ідэя аб'яднання ўсіх дзейсных сіл роднага краю на нацыянальна-патрыятычнай аснове прадвызначыла і пазіцыю М.Гарэцкага ў літаратурным руху: як крытык ён не падзяляў сучасных яму пісьменнікаў паводле іх прыналежнасці да пэўных літгруповак, не падзяляў на «нашых» і «не нашых». Гэтыя пісьменнікі для Гарэцкага ў першую чаргу былі пісьменнікамі беларускімі. І дапамогу ён імкнуўся аказаць слабейшым «маладнякоўцам», каб яны хутчэй уздымаліся да ўзроўню «ўзвышаўцаў».

М.Гарэцкі ніколі не перакладваў на другіх тое, што мог зрабіць сам, ён добраахвотна ўзвальваў цяжар на ўласныя плечы. І нёс яго з годнасцю грамадзяніна-адраджэнца. Скажу болей: Гарэцкі свядома ішоў насустрач небяспецы, не ўхіляўся ад яе, калі пры гэтым была магчымасць выкарыстаць сітуацыю ў інтарэсах Бацькаўшчыны. Так было ў 1918 годзе, калі пісьменнік прыняў прапанову В.Кнорына працаваць у газеце «Звязда» і нават пераехаў з рэдакцыяй газеты ў Мінск, затым у Вільню, хоць меў выразнае ўяўленне пра Кнорына, які ў той час лічыў, што «белорусы не являются нацией», а прыхільнікаў нацыянальнай незалежнасці Беларусі выкрываў як сепаратыстаў і сацыял-шавіністаў. Так было і ў 1923г., калі аўтар «Дзвюх душ» пераехаў з Літвы ў Мінск, хоць ведаў, што камуністычная ўлада не даруе яму гэтага твора. Робячы выбар, М.Гарэцкі верыў у сілу слова, спадзяваўся



станоўча паўплываць на людзей іншай грамадска-палітычнай арыентацыі. І хто сёння адважыцца папракнуць пісьменніка за яго рамантызм?

Гарэцкі, Горацкі і Багацькаўка — прыгаданыя рады слоў-паняццяў нібыта ўвасабляюць дзве супрацьлегласці, якія нязменна спадарожнічалі Максіму ўсё жыццё — такое змястоўнае і такое кароткае і трагічнае. З аднаго боку, выключнае ўнутранае багацце душы, здзіўляючая здольнасць да творчасці, да вобразнага, пластычнага ўзнаўлення рэчаіснасці, незвычайная шчодрасць у адносінах да людзей, дар спачування і суперажывання. З другога — несупынны ланцуг гора, пакут, душэўных выпрабаванняў, несправядлівасцей, якія спаткалі пісьменніка літаральна на кожным кроку. Іншы раз з'яўляецца думка, што ўсемагутныя нябесныя сілы свядома выпрабоўвалі прадстаўнікоў слаўнага роду Гарэцкіх на высакародства, на духоўную моц. І яны гэтае выпрабаванне вытрымалі з гонарам і з годнасцю. Так, М.Гарэцкі трапіў у самае пекла вайны, калі меў за плячыма толькі 21 год. Яму давялося зведаць усе жахі франтавога жыцця, перажыць цяжкае раненне 25 кастрычніка 1914 года, а затым вытрываць адысею пакут у ваенных шпіталях Вільні, Магілёва, Масквы. На гэтым выпрабаванні не закончыліся: у 1915 годзе Гарэцкі зноў трапляе на фронт — у раён Пінскіх балот. Хвароба. Зноў працяглае знаходжанне ў шпітальным ложку Масквы, Жалезнаводска. Трагічная смерць адзінай сястры Ганны ў верасні 1922 года. Беспадстаўны арышт малодшага брата Гурыка. Цяжкія матэрыяльныя ўмовы жыцця ў Вільні. Арышт польскімі акупацыйнымі ўладамі ў 1922 годзе. Лукішкі. Пагроза смяротнай кары. Пераезд на Беларусь у 1923 годзе. Арышт па ілжывым даносе ў ліпені 1930 года. Пазбаўленне волі на 5 гадоў, жахлівае існаванне, суцэльныя пакуты невядома за якія грахі! «Часам находзіць на мяне вялікая злосць і крыўда, што фактычна адкінулі мяне ад літарацкае работы, як апошнюю непатрэбшчыну. Бо ці ж я магу ў сваіх цяперашніх умовах пісаць?» — з адчаем усклікае ссыльны Гарэцкі ў лісце да Леанілы Усцінаўны, свайго адданага, вернага спадарожніка і сябра.

Удумайцеся: гэта ж якія трэба мець маральныя прынцыпы, якую духоўную загартоўку, волю і сілу духа, як трэба любіць жыццё, верыць у свой народ, каб працягваць літаратурную дзейнасць у няволі. Пасля знясільваючай фізічнай працы, не маючы сталага прытулку, даху над галавой, М.Гарэцкі — якая іронія лёсу — жыве на вышках недабудаванага дома і піша раман «Віленскія камунары», прыводзіць да ладу «Камароўскую хроніку»! «Канчаю апрацоўваць «Камунараў». Цяжка мне іх пісаць для друку, усё баюся, каб не зрабіць якой памылкі ў асвятленні» (ліст ад 10 снежня). Якая гэта нясцерпная пакута і прыніжэнне для мастака! Пісаць з пачуццём страху, што ідэалагічныя наглядчыкі ўчуюць крамолу ў творы, які ўслаўляе гераізм людзей, што пад чырвоным штандарам спрабавалі ўсталяваць новы сацыяльны лад — царства свабоды, роўнасці і братэрства! І той, хто ўслаўляў лад, аказаўся непатрэбным гэтаму ладу!

Колькі гора, невымерных пакут, колькі незлічоных і незваротных страт прынеслі нашаму народу магільшчыкі беларускай культуры, духоўныя марадзёры, якія так вытанчана здзекваліся з Гарэцкага, прыніжаючы яго чалавечую годнасць, асуджаючы на маральныя і фізічныя пакуты, на прыніжэнне, і якія ў рэшце рэшт адабралі ў яго жыццё. Не задаволіўшыся сваім гнюсным злачынствам, гэтыя цынічныя, амаральныя паслугачы д'ябла з дапамогаю прадажных журналістаў, крытыкаў і, з дазволу сказаць, навукоўцаў яшчэ на працягу 25 гадоў — чвэрці стагоддзя! — з асалодай, уласцівай усім маральным збачэнцам, з маніякальнай настойлівасцю ганьбілі, аблівалі брудам светлае імя чалавека, уся віна якога была ў тым, што ён быў выдатным нацыянальным пісьменнікам, змагаром за нацыянальнае Адраджэнне, шчыра любіў свой народ, хацеў бачыць яго вольным, шчаслівым і заможным.

Немагчыма нават уявіць, колькі смелых творчых задум Гарэцкага засталося нязздзейсненымі, колькі не паспеў ён напісаць вартых яго таленту мастацкіх твораў і навуковых прац. Але з упэўненасцю можна сцвярджаць, што галоўная кніга пісьменніка — «Камароўская хроніка» — была б абавязкова завершана. «Каб толькі мне напісаць гэту сваю «Хроніку»! — у роспачы ўсклікаў Гарэцкі ў лісце з Вяткі да Леанілы Усцінаўны. — Гэта была б рэч, што на працягу пэўнага часу нейкую цану мае». Якая здзіўляючая, зайздросная сціпласць у ацэнках уласнага твора, што адкрываў новую старонку ў гісторыі беларускага эпічнага мастацтва, твора, героі якога — працоўнае сялянства — узводзіліся пісьменнікам у ранг герояў гістарычнага маштабу. Беларускі хлебароб у «Камароўскай хроніцы» паўставаў як фігура дзяржаўнага ўзроўню. У гэтым і трэба бачыць сутнасць мастацкай канцэпцыі народа, характар абмалёўкі народнага жыцця ў «Хроніцы». Такі твор мог напісаць толькі вялікі нацыянальны пісьменнік, які валодаў здольнасцю ахопліваць жыццё ў яго няспыннай рухомасці, у бясконца разнастайных праявах. Болей таго! Гарэцкі — гэта жывое ўвасабленне мастака-адраджэнца, найболей характэрная асаблівасць якога — уменне прадбачыць заўтрашні дзень роднага краю, будучыню народа. М.Гарэцкі, маючы прарочы дар, прадчуваў тыя трагічныя выпрабаванні, якія ў хуткім часе выпалі на долю беларускага народа — працоўнага сялянства, творчай інтэлігенцыі. Многія творы Гарэцкага гучаць так, быццам напісаны сёння: гэтулькі ў іх прадбачання, інтуітыўнай сацыяльнай прагностыкі, трывожнага прадчування вялікай усенароднай трагедыі. У 1926 годзе пісьменнік ажыццявіў нялёгае падарожжа ў Сібір, каб на ўласныя вочы ўбачыць, што ж сталася з беларусамі-перасяленцамі, якіх беднасць і галеча прымусілі пакінуць родны край. Ці захавалі яны сваю мову, культуру, спрадвечныя ўяўленні і звычаі? Гэтыя пытанні ўсур'ёз турбавалі Гарэцкага, бо ён сэрцам адчуваў, што могуць скласціся такія ўмовы, што карэнныя беларусы на сваёй роднай зямлі акажуцца ў становішчы перасяленцаў-выгнаннікаў і ім цяжка будзе захаваць сябе як нацыю. Творы М.Гарэцкага патрабуюць сёння новага прачытання, каб глыбей спасцігнуць іх невычэрпны змест, падтэкставую глыбіню, скіраванасць да будучых пакаленняў, іх велізарнейшую ролю ў адраджэнні нацыянальнай культуры.

За 12 гадоў да сваёй трагічнае смерці М.Гарэцкі па дарозе ў Сібір у абразку «Максімава зязюля», прыгадваючы журботны верш Багдановіча «Не кувай ты, шэрая зязюля!» і паэтаў лёс, у ціхай задуменнасці пытаўся сам у сябе: «І дзе будзе маё апошняе прытулішча? Можа тут, у Сібіры, — як і яму, на далёкай чужыне».

Незабыўны дзядзька Максім! На вялікі жаль, ты не нашмат памыліўся ў сваіх трагічных прадчуваннях! Тваё чулае сэрца, перапоўненае пяшчотнай любоўю да людзей, падказала, што не на сваёй роднай зямельцы, не на Багацькаўскіх могілках побач з бацькам і маці знойдзеш ты свой вечны супачын! І не родныя дзеці, не маладыя прыхільнікі твайго таленту акажуцца побач з табою ў апошнюю хвіліну твайго зямнога існавання і ў ціхай жалобе назаўжды закрыюць твае вочы. Крымінальнік з ружжом як сімвал таталітарнага рэжыму, заснаванага на жорсткасці і беззаконні, каманда забойцаў, якія дзейнічалі ад імя самай справядлівай у свеце народнай улады, — вось хто стане сведкай твайго гвалтоўнага развітання з жыццём. Д'ябальская куля абарвала яго, павялічыўшы яшчэ на адну ахвяру незлічоныя тысячы нявінна ўбіенных сыноў і дачок шматпакутнай маці-Беларусі.

Знішчаючы Гарэцкага, ягоныя каты цалялі ў сэрца Беларусі. Яны ў сваёй асляпёнасці і вар'яцкай раз'юшанасці хацелі знішчыць народ, яго культуру, нацыянальную годнасць беларуса і надзею на лепшае. А затым на працягу 50-ці гадоў дзяржаўныя злачынцы старанна ўтойвалі час і месца смерці Максіма-пакутніка. Нізкі паклон тым сумленным людзям з горада Вязьмы, хто нарэшце ўстанавіў (можа, і не зусім дакладна) месца расстрэлу — месца забойства — беларускага песняра-патрыёта. Упэўнены: яно стане месцам паломніцтва ўсіх, каму дарага імя Максіма Гарэцкага і хто не хоча, каб падобныя злачынствы паўтараліся калі-небудзь на нашай зямлі, гэтак шчодра палітай людской крывёю. А пра тых, хто ўчыніў масавы генацыд свайго народа, скажу словамі паэта: «И не уйти вам от суда людского, Как не уйти от Божьего суда».

Як хрысціянін, як чалавек праваслаўнага веравызнання я ўпэўнены: бессмяротная душа Максіма, якая вынесла ўсе зямныя пакуты, прысутнічае сярод нас. Яна кліча нас не да крывавай помсты ягоным крыўдзіцелям, а да сапраўднага духоўнага ачышчэння. Яна ўмацоўвае нашу нетрывалую веру ў чалавечае высакародства і веліч яго справы, калі справа скіравана на ўмацаванне дабрыні і міласэрнасці.

## ВОДГУЛЛЕ

# НАША ХВОРАЯ ПАМЯЦЬ



Дзень беларускага войска святкаваць мы будзем, верагодней за ўсё, 31 снежня. Ці ж у галаве каму, што вытокі беларускае дзяржаўнасці заглыбляюцца ў добры дзесятак сівых стагоддзяў, што беларускі народ мае сваю адметную гісторыю, што продкі нашы мужна баранілі сваю незалежнасць і ў XIII, і ў XIV, і ў XV, і ў XVI, і ў XVII стагоддзях?! Для чынавенства найгалоўным сталася тое, што генералітэт адважыўся прысягнуць на вернасць народу і дзяржаве ў канкрэтны дзень. Але нават і пераважная большасць афіцэраў, якія прынялі прысягу ў апошні дзень года, не складаюць цалкам беларускае войска. Прысягі вайскоўцаў на вернасць беларускаму народу і краіне былі да 31 снежня, будуць і пасля гэтага дня. Да таго ж яшчэ невядома, які вынік займее гэтая, няхай сабе і найбольш масавая падзея ў бліжэйшай і больш аддаленай перспектыве.

Прысяга прысягай, а вайскоўцы кшталту генерал-лейтэнанта Іванова ды арганізацыі, якія імі ўзначальваюцца (Гл. «Народная газета», 1993г., 3 сакавіка, стар.3), не дазваляюць з пэўнасцю разглядаць маладую армію беларускай дзяржавы гарантам яе незалежнасці. Прыдуманы ў Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь святочны дзень для вайскоўцаў краіны выглядае даволі штучным і бачыцца хутчэй як спроба зэканоміць на святкаваннях, сумясціўшы яго з адзначэннем Новага года. Ці ж не перамагалі нашы продкі агрэсараў пад Крутагор'ем, Грунвальдам або Оршаю? Хто ведае, ці не дзякуючы адной з гэтых перамог жывём сёння мы, слаўных ваяроў нашчадкі, да якіх так пакутліва вяртаецца гістарычная памяць? І ці ж не ў гэтых падзеях выявілася вартасць беларускай зброі, надзвычайная мужнасць нашых продкаў, якія й ляглі ў падмурак цяперашняй незалежнай Беларусі?

Пра гістарычную памяць гаворана-перагаворана, здавалася б, нічога новага і не скажаш. Але хада падзей вымушае вяртацца да ранейшай тэмы, бо адной з асноўных прычын нашых бедаў бачыцца адсутнасць акрэсленай пазіцыі кіруючых структураў у пытаннях, якія закранаюць надзвычай важныя сферы жыцця краіны: культуру, традыцыі і мараль народа, фармаванне яго гістарычнай свядомасці. Таму, відаць, ідэя беларускай дзяржаўнасці і не ўспрымаецца як сукупны суб'ект сусветных грамадска-палітычных працэсаў, шматмерны ў часе і прасторы, з уласцівымі толькі яму адметнымі прыкметамі. Без падобнага разумення пабудовы ўласнае дзяржавы яшчэ доўга беларускія вандроўнікі будуць наладжваць агледзіны кітайскага ладу жыцця, дзівавацца на карэйскія парадкі ды выказваць замілаванне пры наведванні ізраільскіх кібуцаў. Не зразумеўшы, што той жа Ізраіль стаў Ізраілем дзякуючы менавіта апоры на нацыянальную ідэю, усе гэтыя вандраванні па свеце паспрыяюць хіба толькі механічнаму пераносу некаторых асаблівасцяў замежжа на беларускую глебу. Шлях у будучыню для Беларусі будзе незваротным, калі ўтрываліцца ён на нацыянальных традыцыях, будзе зладжаны, зыходзячы менавіта з беларускага менталітэту. У адваротным выпадку нашай дзяржаве выпадае задаволіцца хіба што статусам прыдатку некага з больш моцных суседзяў.

Не перастаю дзівіцца шторазоваму самаедству сваіх суайчыннікаў. Перш чым ступіць крок, беларуса так і цягне папытацца ва ўсіх наўкола: а ці не клопатна каму будзе ад гэтакай яго «смеласці». Праўда, пытанні гэтыя адрасуюцца ўсё болей у адным накірунку, усходнім. З летувісамі або ўкраінцамі беларус паводзіць сябе неяк смялей. Сведчаннем такой выбарнай смеласці з'яўляецца ўспрыняцце намі сваёй жа гісторыі. Яшчэ і сёння вайну XVIIст. Масковіі з Рэччу Паспалітай у нас называюць руска-польскай. Быццам продкі нашы да адной са стратнейшых для Беларусі бойняў не маюць ніякага дачынення. На Аляксандра Суворава з ласкі немалой часткі нашых палітыкаў сённяшні беларус вымушаны глядзець так, нібы ён кум расійскаму прэзідэнту і ад ушанавання іх «сваяцкіх» адносін цалкам залежыць ліквідацыя энергетычнага крызісу ў Беларусі. Нават Старшыня беларускага Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч толькі і асмеліўся закамуфлявана ахарактарызаваць рускага палкаводца, параўнаўшы яго з Напалеонам і Гудэрыянам, ды пераадрасаваў найбольш дапытлівых суграмадзян да Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

Пасля падобнага стаўлення да ўласнай мінуўшчыны і разумення яе значэння ў справе станаўлення беларускай дзяржаўнасці не варта дзівіцца, што члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, як паведаміла газета «Свабода», вырашылі назваць будучыя нацыянальныя грошы рублём, бо «к рублю все привыкли». Падобнае меркаванне надзвычай нагадвае яшчэ памятнае «народ этого не поймёт». Але народ даўно ўсё разумее. Народу б яшчэ крышку праўдзівых гістарычных фактаў, каб адчуў ён сябе спадкаемцам спраў сваіх славутых продкаў, ды законамі аб уласнасці замацаваць яго спрадвечнае пачуццё гаспадара ў сваёй дзяржаве.

І яшчэ народу б вызначыцца: што ж наўкола яго адбываецца. Напрыклад, ведаць бы дакладна пра характар дзяржавы, якую мы будуем: свецкую ці, скажам, усё ж з прымесам рэлігійнасці. А калі апошняе, то на якую канфесію неабходна рабіць стаўку на бліжэйшую і больш аддаленую перспектыву? Няма сумненняў, што грамадства толькі выйграе, калі любая рэлігійная абшчына можа вольна праводзіць сваю дзейнасць, няхай сабе і абмежаваную рамкамі цывілізаванага заканадаўства. Можна з разуменнем паставіцца да асвячэння больш ці менш шчыльнага шэрагу «камкоў» хаця б і на ўсім праспекце Францішка Скарыны або першай бараны на чыіхсьці ўласных сотках. Але ніякавата ўспрымаецца абавязковая прысутнасць святароў, пераважна праваслаўных, пры адкрыцці новых дзяржаўных палiклінік, цэхаў заводаў ці фабрык, нават нейкіх кантор.

Таксама застаецца незразумелым, а да гэтага бачыцца і не надта шчырым, імпэт некаторых органаў улады пры перадачы колішняй царкоўнай ці касцельнай маёмасці вернікам. Несумненна: старыя даўгі плаціць трэба. Толькі ж за такім паказным імпэтам раптам на другі план адыходзяць справы дзяржаўныя, а на змену ім выступаюць як бы і вузкаканфесійныя. Калі сама дзяржава ў асобе сваіх чыноўнікаў узялася за справу настолькі шчыра, то ці не варта такой заставацца да канца. Вядома ж, што ў XIXст. многія каталіцкія святыні былі перададзеныя праваслаўнай царкве. Сёння і пратэстанцкія вернікі хацелі б вярнуць сабе старажытныя зборы, тым больш што прысутнасць у будынку іншай канфесіі істотна ўплывае на гістарычнае аблічча адметных помнікаў дойлідства.

Вырашаючы пытанні перадачы маёмасці вернікам, варта абавязкова ўлічваць, што многія з храмаў захаваліся менавіта дзякуючы прыстасаванню іх пад канкрэтныя сучасныя мэты. Найбольш станоўчы вынік для захаванасці рэлігійных гісторыка-культурных каштоўнасцей, і не толькі будынка, мела выкарыстанне іх для патрэбаў культуры. І ці заўсёды богаўгодную справу робяць вернікі разам са сваімі пастырамі, калі часам выяўляюць празмерную нецярпімасць пры вяртанні будынкаў? У сродках масавай інфармацыі дастаткова шырока асвятляліся трывожныя падзеі ў Горадні вакол Рэспубліканскага музея гісторыі рэлігіі. Шлях станаўлення музейнай установы быў няпросты. Супрацоўнікі па каліўцу, самаааддана стваралі і стварылі адзін з найлепшых у краіне музеяў. Але гарадзенскія абласныя ўлады вырашылі справу па-свойму. Пры гэтым самы раз гаварыць пра задавальненне ці нейчых уласных інтарэсаў, ці, у лепшым выпадку, інтарэсаў грамадскай арганізацыі, якой з'яўляецца царква. Але ж дзяржаўныя інтарэсы ў дадзенай сітуацыі апынуліся на водшыбе.

Зрэшты, такое сталася не толькі ў Горадні. Нельга не прыгадаць «высяленне» музея з колішняга кальвінскага збору ў Заслаўі. Варта, дарэчы, звярнуць увагу, што і ў гарадзенскай, і ў заслаўскай сітуацыях культавыя будынкі праваслаўнымі не будаваліся. А падставай «вяртання» маёмасці канкрэтнай канфесіі вернікаў стала гвалтоўная перадача ёй будынкаў у XIX стагоддзі царскім урадам, правапераемнікам якога нашы ўладныя структуры сябе, здаецца, не лічаць. Падобныя праявы ў справе перадачы маёмасці абшчынам вернікаў могуць выклікаць сумненне ў шчырым імкненні канкрэтных службоўцаў будаваць на Беларусі прававую дзяржаву. Пры такіх падыходах мы па-ранейшаму маем шанц заставацца грамадствам крайнасцяў, калі кожны новы павеў палітычнага ветру можа істотна пахіснуць дэкляраваныя пазіцыі канкрэтных колаў грамадства.

Грамадства наша па-ранейшаму ў стане хваробы. Яна, на жаль, пусціла надзвычай глыбокія метастазы. Таму часам любы з уяўных сімптомаў да выздараўлення дарэшты касуецца нават неасцярожным дзеяннем сілаў, для якіх традыцыі, мінуўшчына нашай зямлі глуха зашораны рамкамі паняццяў, што панавалі ў нядаўняй таталітарнай імперыі. Зашоранасць тая выяўляецца і ў ваяўнічым непрыняцці пазіцыі апанентаў, на чым, падобна, грунтуецца ініцыятыва Мінабароны Рэспублікі па ўвядзенні ў заканадаўства палажэнняў аб забароне займацца вайскоўцам палітычнай дзейнасцю ў пазаслужбовы час. Да такога меркавання схіляюць неаднаразовыя неласкавыя словы міністра абароны спадара Паўла Казлоўскага на адрас Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Вайсковае кіраўніцтва Беларусі і заўважаць не хоча, што ўся «палітыка» аб'яднаных згуртаваннем афіцэраў скіравана выключна на ўсталяванне незалежнасці дзяржавы. Але імперскія стэрэатыпы, што трывала ўеліся ў свядомасць, не дазваляюць пазбавіцца ад заскарузлай памяці пра нядаўняе мінулае. У такой сітуацыі больш прыдатнымі з'яўляюцца адпрацаваныя падыходы ўзаемадачыненняў: уладным структурам лягчэй выкарыстаць свае магчымасці на забарону, чым узняцца да ўзроўню досведу сваіх апанентаў.

Доўгія дзесяцігоддзі ў галовы грамадскасці ўбівалася двухколернае ўспрыняцце свету. І хаця стары філасофскі пастулат сведчыць, што развіццё праходзіць у адзінстве і барацьбе супрацьлегласцей, для руху ў будучыню прымальным лічыўся толькі стан барацьбы і змагання. «И вечный бой, покой нам только снится,» — такія словы сталі лозунгам існавання вялізнага дзяржаўнага ўтварэння. Выходзілі на барацьбу з «ворагамі народа», з касмапалітамі, з «псеўданавукамі», за ўраджай, з алкагалізмам... Дзяржава змагалася з уласным народам, змушаючы забыцца на ўсё, што выходзіла за рамкі міфаў пра гэтую дзяржаву. Але міфы павінны стасавацца з рэаліямі. У адваротным выпадку яны паралізуюць памяць цэлых народаў, прыносячы шкоду, што напоўніцу спазнаём сёння мы, людзі посттаталітарнага грамадства.

Ігар ЧАРНЯЎСКІ,
народны дэпутат Мінгарсавета.




*Звяртаючыся да тых, хто пастаянна глядзіць тэлевізійныя перадачы, я папрасіла назваць прозвішчы некалькіх дыктараў —тых, якія кожны вечар становяцца нашымі хатнімі субяседнікамі. Вынікі гэтага «эксперымента» расчаравалі. Паціскаючы плячыма, гледачы называлі адно прозвішча: Шаліхін. Нехта ўспомніў Веру Ропат, Кацю Несцяровіч, якая, дарэчы, даўно не паяўляецца на блакітным экране. А вось з сённяшніх не назвалі ніводнага прозвішча!*

*Кацярына Несцяровіч, заўважым, — адзіная, каго народная артыстка Беларусі дыктар Зінаіда Бандарэнка вызначыла як сваю паслядоўніцу. Кацярына Ягорава (Несцяровіч) сёння працуе дыктарам на Беларускім радыё. Гутаркай з ёй мы і адкрываем новую рубрыку «Жывы эфір».*

# "ЛЮБІ І ЛЮБІМЫМ БУДЗЕШ"



**— Каця, дазвольце называць вас так, Зінаіда Бандарэнка далучыла Вас да тых, хто разам з ёю быў «асобай, набліжанай да імператара». Як вы ставіцеся да гэтай ролі?**

— Мне зусім не імпануе такая роля. Ды і што наогул азначае гэтая метафара? Калі прывілеі весці ўрачыстыя канцэрты, дык у мяне і сёння хапае запрашэнняў, і не на ўсе я згаджаюся. А калі гаварыць пра амбіцыі, пра сваю набліжанасць да «сильных мира сего», дык мой жыццёвы прынцып — ні ад кога не залежаць. Я не «прыдворная дама». І ад «зоркавай хваробы» Бог мяне ўратаваў. А папулярнасць — што ж, калі глядач табе верыць, дык будзе і яна.

**— Вы і былі папулярная. Я, напрыклад, да гэтага часу помню тэлевізійныя «вячоркі», якія Вы вялі. Лепш за Вас ніхто гэтага не рабіў. І тым не менш Вы перайшлі на радыё. Чаму?**

— Справа гэта даўнішняя, і мне б не хацелася пра гэта гаварыць. А галоўнае, я больш люблю радыё, чым тэлебачанне. Так, так, не здзіўляйцеся! На тэлебачанні большая ўвага надаецца знешнім прыкметам прафесіі. Людзі прыглядаюцца да цябе і абмяркоўваюць, як ты выглядаеш, якая ў цябе прычоска, сукенка, які ў цябе настрой. І толькі потым зважаюць на змест, на сутнасць таго, пра што ты гаворыш. А на радыё «працуе» голас, інтанацыя, тваё разуменне слова, тваё ўменне менавіта голасам, інтанацыяй, акцэнтаваннем выклікаць давер. Урэшце, працуе твая душа, быў бы толькі тэкст змястоўны.

**— Не магу не пагадзіцца з Вамі. Я таксама лічу, што голас, яго мадуляцыі, інтанацыі, уласцівыя чалавеку, — адна з важнейшых характарыстык асобы, як гаворка — паказчык яго культуры. Гэта, на жаль, на тэлебачанні стаіць на другім плане. Калі выбіраюць дыктараў, увагу звяртаюць перш за ўсё на знешнасць. Але, як заўсёды, і тут, на радыё, нешта губляеш і нешта знаходзіш. На мой погляд, на тэлебачанні Вы мо лепей за іншых увасаблялі, так бы мовіць, нацыянальны вобраз дыктара. Здавалася, што Вам так падабаюцца тыя вясковыя вячоркі! Вы, такая ў жыцці рафініраваная гараджанка, былі (а не ўяўлялі!) сваёй у вясковай хаце — на вяселлі, на гасцінах. Ну, зусім вясковая дзяўчына!**

— А я і ёсць вясковая. Нарадзілася ў маленькай вёсачцы пад Лёзна. І школу там закончыла. І самадзейнасцю займалася ў вясковым клубе. Там мяне некалі і заўважыў Генадзь Іванавіч Цітовіч і запрасіў у свой хор. Як выявілася на праслухоўванні, і голас у мяне «народны» ад прыроды. І стала я спяваць у хоры, а потым весці і канцэрты.

**— А як трапілі на тэлебачанне?**

— Туды мяне запрасілі зусім нечакана.

**— І Вы адразу згадзіліся?**

— Не, не адразу. Толькі праз шэсць гадоў. Калі дачушка падрасла.

**— І што? Не спадабалася тэлебачанне?**

— Ну, чаму не спадабалася! Сустракацца з людзьмі вочы ў вочы, весці з імі гаворку па шчырасці мне заўсёды імпанавала. Тэлекамеры для мяне не існавала, я не заўважала яе.

**— Так! Здавалася, што Вы ажываеце перад камерай. Помню, я з Вамі размаўляла ў калідоры тэлестудыі, — Вы былі нібы затарможаная. А ў той жа дзень, убачыўшы Вас на экране, не пазнала! Адкуль што ўзялося: раскаванасць, усмешлівасць, гаварлівасць. Відаць, у гэтым і заключаецца сапраўдны артыстызм. Ведаю, што ў жыцці многія артысты нібы берагуць сваю энергію, а на сцэне ажываюць. А як у дыктара?**

— Калі любіш сваю справу, так яно і здараецца. Але дыктар, я думаю, перш за ўсё павінен карыстацца тым, што называецца «крэдытам даверу». Магчыма, гэта шчырасць, магчыма, упэўненасць, або якая іншая рыса характару, чым табе ўдалося заваяваць давер слухача, дамагчыся, каб ён верыў той інфармацыі, якая перадаецца тваімі вуснамі.

**— Дыктар і інфармацыя? Вы лічыце, што гэта натуральна, калі не журналіст, а менавіта дыктар інфармуе?**

— Менавіта дыктар. Як на Бі-Бі-Сі. Там жа інфармацыйныя блокі чытаюць дыктары, а не журналісты. Лічу, што і на беларускай «Панараме» дыктары, якія сталі весці яе, робяць гэта лепш за многіх журналістаў, ва ўсякім разе, больш прафесійна.

**— Згодна, што наша «Панарама» стала апошнім часам больш строгай. Праўда, па форме падачы матэрыялаў, але пакуль што, на жаль, не па якасці журналісцкіх матэрыялаў. Але вернемся да Бі-Бі-Сі. Відаць, дыктараў там падбіраюць не па знешніх дадзеных і не па акцёрскай манеры. Не выпадкова, калі вы заўважылі, англійскія дыктары не імкнуцца ўразіць прычоскай ці сукенкай. У іх усё як у будні. Яны разумеюць, што ідуць не ў тэатр, не ў рэстаран, а на сустрэчу са звычайнымі людзьмі, у іхні дом, кватэру, яны памятаюць, што большасць людзей жыве сціпла, і кватэры ў іх, уся абстаноўка — сціплыя.**

— Так, нішто не павінна адцягваць увагі ад зместу перадачы.

**— А на радыё гэта больш удаецца, чым на тэлебачанні?**

— Калі ёсць добры, змястоўны тэкст, — безумоўна.

**— Якія перадачы Вам больш даспадобы? Літаратурныя? Музычныя?**

— Публіцыстычныя. Люблю звяртацца да слухача, нават крыху імправізую.

**— Захапляецеся палітыкай? Яна Вам не надакучыла?**

— Не-не, палітыкай не цікаўлюся! Я маю на ўвазе публіцыстыку, якая ставіць вечныя, так бы мовіць, жыццёвыя праблемы простых людзей.

**— А праблем гэтых — вышэй галавы... Якая галоўная асабіста для Вас? На чым стаіцё? Што дапамагае Вам супрацiўляцца сённяшняму нялёгкаму жыццю, цяжкім абставінам?**

— Жаданне быць карыснай і любімай сваімі роднымі, сябрамі, знаёмымі. Гэта — галоўнае. Любі — любімым будзеш.

**— І ўсё ж, Вас не прыгнятаюць будні? Чэргі, пустыя паліцы магазінаў, азлобленасць натоўпу?**

— Вядома, прыгнятаюць. Але я з тых, хто не паддаецца настрою натоўпу. Калі аднойчы я заўважыла, як ходзяць нашы жанчыны, у тым ліку і я сама: увабраўшы галаву ў плечы, нібы баючыся, што цябе зараз нехта прыстукне, то вырашыла — трэба расслабіцца, «зрабіць твар». Крыху ўсмешкі на вуснах, і — вышэй галаву! Глядзіш, і стала лягчэй. І ў натоўпе, і ў той жа чарзе стараюся падбадзёрыць чалавека добрым словам, жартам, усмешкай.

**— І будучыня Вас не палохае?**

— А што можа напалохаць? Страта работы? Дык я ж ніякай работы не баюся. Без справы ніколі не сяджу. Ведаеце, я ні разу не адпачывала ні ў санаторыі, ні на курорце. Як выпадзе вольная часіна, еду на вёску да мамы. А там работы — процьма. Мяне можна нават назваць «працагалікам», нават увечары, седзячы перад тэлевізарам, заўсёды чымсьці займаю рукі, — як правіла, вяжу. І нават на рабоце мне не хапае толькі аднаго — работы. Хачу больш працаваць як дыктар. І, вядома, заставацца жанчынай.

Гутарку вяла
Рэгіна БАКУНОВІЧ.

# НЕЛЬГА САРОМЕЦЦА МАТЧЫНАЙ МОВЫ...

... Прыемна, што зараз, напрыканцы XX стагоддзя, як калісьці ў 20 — 30-я гады, на Беларусі зноў стала вельмі многа нацыянальна свядомых беларусаў, якія шмат робяць дзеля адраджэння беларускай культуры. Але, на жаль, у пасядзённым жыцці мы яшчэ сустракаем суайчыннікаў, якія рэзка адмоўна ставяцца да сваёй нацыянальнай спадчыны, да ўсяго беларускага.

На маю думку, сёння нельга дазваляць нават рускамоўным газетам друкаваць артыкулы супраць беларусізацыі, бо ў нас прыняты Закон аб мовах, дзе адзінай дзяржаўнай мовай прызнана беларуская. Толькі духоўнае адраджэнне нашай Бацькаўшчыны можа прывесці да адраджэння эканамічнага. А не наадварот. Не трэба беларусам саромецца размаўляць на роднай мове. Няхай спачатку гэта будзе не зусім правільная, «чыстая» мова, але галоўнае — пачаць.

... Беларусь на сённяшні дзень уяўляецца мне рускамоўным акіянам з рэдкімі маленькімі астраўкамі беларушчыны. Найбольшае развіццё ідэя беларусізацыі набыла, вядома, у сталіцы нашай рэспублікі, асабліва сярод моладзі. Але непарэдна нацыянальная беларуская культура, яе звычаі і традыцыі больш за ўсё захаваліся ў вясковай глыбінцы, напрыклад, на Палессі, дзе я нарадзіўся і дзе зараз часта бываю.

... На мой погляд, нам зараз не стае нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, шчыра зацікаўленай беларускай справай. І выхаванне будучых свядомых грамадзян трэба пачынаць з самага дзяцінства, са школы. Тады нам не будзе сорамна размаўляць на роднай мове, усведамляючы, што мы — беларусы...



Кастусь КАРНЯЛЮК,
настаўнік, г.Мінск.

# ТУТ І ЦЯПЕР

Тры дні працягваўся ў Доме літаратара конкурс беларускай бардаўскай песні. Шэсцьдзесят адзін чалавек — з розных гарадоў Беларусі і з «блізказамежнай» Вільні — удзельнічалі ў першым туры. Розны ўзрост (ад васьмі да пяцідзесяці гадоў), розныя песні, розныя інструменты (гітара, акардэон, фартэпіяна), розныя людзі. У журы ўваходзілі народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, пісьменнікі Анатоль Сыс, Леанід Дранько-Майсюк, Людміла Паўлікава, Анатоль Жалязоўскі, кампазітары Зміцер Яўтуховіч, Эдуард Зарыцкі, кампазітар-выканаўца Ігар Добры і прадстаўнік Міністэрства культуры Віталь Каспяровіч. У выніку першую прэмію атрымаў Алег Атаманаў, другую — Эдуард Акулін, трэцяе месца падзялілі Вольга Цярэшчанка і Іван Беладубенка, прыз сімпатый гледачоў дастаўся Віктару Шалкевічу. Такія афіцыйныя вынікі конкурсу, Добра, калі ён стане традыцыйным...

Конкурс прайшоў, але пакінуў шмат пытанняў. Кампетэнтнае журы ці не? Што такое «бардаўская песня»? Ці патрэбны ўвогуле падобны конкурс? Безумоўна — многія з гэтых пытанняў можна палічыць рытарычнымі, але ўжо з'явілася некалькі публікацый у прэсе, якія і здзівілі, і насцярожылі. Таму на некаторыя пытанні я мушу адказаць.

Чамусьці спрачаюцца і «на ўсю моц» абмяркоўваюць конкурс не самі ўдзельнікі, у большасці сваёй, думаю, задаволеныя, што падобнае свята адбылося, а людзі, далёкія ад бардаўскага мастацтва: журналісты, фатографы. Судзяць цяпер і тыя, хто ў свой час адмовіўся увайсці ў склад афіцыйнага судзейскага журы. Напрыклад, Надзея Кудрэйка. Вось іронія лёсу... Выказваўся і Вітаўт Мартыненка, быццам прычакаўшы ўдалага моманту, каб памахаць кулакамі пасля бойкі. А між іншым, папярэдняя рэклама кокурсу доўжылася амаль два месяцы, і ўсе «руплiўцы» мелі магчымасць прынамсі выказаць свае прапановы і меркаванні.

Некампетэнтнае журы? Але як вызначаецца кампетэнтнасць? Што, акрамя мастацкага густу, пэўнага вопыту і душы, здольнай да ўспрымання лірыкі, неабходна для ацэнкі выканаўцаў? Думаю, што сумленне. І менавіта дзякуючы яму прэміі атрымалі тыя, хто іх заслугоўвае. Праўда, мушу агаварыцца, у журы ўсё ж быў адзін чалавек, «некампетэнтнасць» якога праявілася ў той дзень, калі нават журналісты, што зараз аспрэчваюць ацэнку журы, змаглі адрозніць цвярозага ад п'янага. Мне дзіўна, што Анатоль Сыс, які на словах так хварэе за Беларусь, змог настолькі легкадумна паставіцца да свайго абавязку члена журы. Няўжо ўчынак Алеся Камоцкага магчыма было кваліфікаваць інакш, чым у боксе кваліфікуецца ўдар нагой ніжэй пояса?

Камоцкі, як і ўсе ўдзельнікі, прайшоў першы тур на агульных умовах. Агледзеўся: аж ён на сёмым месцы!.. І зрабіў забаронены ход: на другім туры праспяваў дзве песні і вымавіў: «Я папрасіў бы шаноўнае журы не ацэньваць мае песні, я ўжо стары зубр, з мяне пачыналася бардаўская песня на Беларусі — хай лепш прэмія дастанецца маладзейшым...» Легкаверныя журналісты на чале з Марынай Купаўскай палічылі гэты ўчынак высакародным жэстам. Сапраўды: удзельнік, які прэмію ўсё роўна не атрымаў і, набраўшы 41 бал (а ў лідэра — 44), мае вельмі мала шансаў на перамогу, так клапоціцца аб маладой «змене»! Ды і песня бардаўская, шчыра кажучы, пачыналася на Беларусі яшчэ на пачатку шасцідзесятых.

Бардам старажытныя кельты называлі паэта-спевака. Такім чынам, бард — не толькі паэт. Бардаўскае мастацтва ў лепшым сэнсе «сінтэтычнае». А калі зрабіць экскурс у беларускую культурную традыцыю, дык чым, калі не аўтарскай песняй, былі творы лірнікаў, гусляроў?.. Калі паэт можа пісаць «у стол», то бард павінен выканаць свой твор «тут і цяпер», праспяваць сваю песню хаця б аднаму чалавеку. Каб не захлынуцца словамі, мелодыямі, пачуццямі, неабходны непасрэдны жывы водгук, кантакт з роднаснымі душамі.

Іншы раз з літаратурнага пункту погляду тэкст песні бывае не зусім удалы, але ў спалучэнні з мелодыяй, голасам і вобразам на сцэне ён уздзейнічае на душу і сэрца. Бывае і наадварот: пры даволі прымітыўнай мелодыі песню «выцягвае» тэкст. Бардаўская песня — гэта, так бы мовіць, «жывы» твор, што непасрэдна ўплывае на чалавека. Таму нельга паасобку ацэньваць тэкст, мелодыю, выкананне — трэба «ўбачыць» увесь твор цалкам, адчуць гармонію, якую не правераш алгебрай.

І манера выканання можа быць самая розная, непадобная да Высоцкага і Розенбаўма. І інструмент — не заўсёды гітара. Гэта можа быць акардэон, балалайка... І хто акрэсліць «бардаўскія тэмы», калі не наша агромністае, да рэшты непазнавальнае быццё? Бардаўскае мастацтва — гэта таксама Мастацтва. А таму —хто яму канчатковы і вышэйшы суддзя?

**Анатоль КУДЛАСЕВІЧ.**

---




**Выдатны польскі сатырык Станіслаў Ежы Лец (барон дэ Туш-Лец) нарадзіўся ў 1909 годзе; дзяцінства прайшло ў бацькоўскім маёнтку, які знаходзіўся на землях той часткі Заходняй Украіны, што ўваходзіла ў склад Аўстра-Венгрыі.**

**Пасля першай сусветнай вайны жыў у Львове.**

**Барон Ежы Лец заўсёды ганарыўся сваёй прыналежнасцю да арыстакратыі, глыбока шанаваў радавод сваёй сям'і і, разам з тым, захапляўся ідэямі сацыяльнай справядлівасці, супрацоўнічаў з левымі газетамі і часопісамі.**

**Другую сусветную вайну сустрэў у тым жа Львове. Падчас гітлераўскай акупацыі быў кінуты ў лагер смерці, адкуль уцёк у Варшаву, дзе прыняў актыўны ўдзел у руху супраціўлення, быў афіцэрам партызанскай Арміі Людовай.**

**Росквіт творчасці як сатырыка, аўтара знакамітых афарызмаў, прыпадае на сярэдзіну пяцідзесятых гадоў.**

**Памёр у Варшаве ад рака.**

**Афарызмы Леца перакладаліся на многія мовы. Іх цытуюць амаль ва ўсім свеце, але на любой мове яны не трацяць сваёй самабытнасці, яскравай індывідуальнасці іх творцы, хоць і ўжываюцца пры такіх акалічнасцях, у такім кантэксце, якіх аўтар, вядома, не мог прадбачыць. Бо не змяніўся галоўны, вечны кантэкст — жыццё чалавечае з яго трагізмам, супярэчнасцямі, прагай дабра і праўды. Таму і сёння іронія Леца, яго смех — то горкі, то паблажлівы, то проста вясёлы — лекі для душы, інтэлектуальная асалода для розуму.**

**Прапаную чытачам «Культуры» тое-сёе з афарызмаў Станіслава Ежы Леца ў маім перакладзе.**

**Валянцін ТАРАС.**

- Пісьменнік павінен пісаць крывёй, але ж сваёй!
- Толькі вечная нястача і паўгаладнае існаванне літаратараў могуць насыціць літаратуру.
- Вялікая сіла мастацтва: нават смярдзючы тхор можа быць яго героем.
- Як часта фарс рэчаіснасці адгукаецца на сцэне трагедыяй!
- Мноства людзей перажываюць трагедыю, але ж не для кожнага яе піша Сафокл.
- У кожнай краіне пытанне Гамлета гучыць інакш.
- У многіх творах галоўную ролю адыгрывае палітыка. І перамагае ўсё астатняе.
- Дзіўна: «філасофіі роспачы» баяцца перш за ўсё аптымісты!
- Будзь рэалістам: не кажы праўды!
- Смех — рэха трагізму эпохі.
- З Сакратамі на брудэршафт можна выпіць толькі цыкуты.
- О, калі б мы маглі бачыць жыццё, а не сітуацыю!
- Паэты што дзеці: калі сядзяць за пісьмовым сталом, не дастаюць нагамі да зямлі.
- Мастацтва скажа само за сябе, калі ёсць каму.
- І кастраты духу бяруць высокія ноты. Аж вушы закладае!
- Ёсць п'есы настолькі слабыя, што не могуць сыйсці са сцэны.
- Сена, якім набіта галава многіх паэтаў, нядрэнны корм для іхніх Пегасаў!
- Заўважана, што людзі любяць такія думкі, якія не прымушаюць іх мысліць.
- Аб часе больш гаворыць словы, якія стараюцца не ўжываць, чым тыя, якіх аж занадта.
- — Пра што дэбаты, гарбуны? — Ды ўсё наконт прамой спіны!
- Неўміручы пісьменнік памірае ў сваіх эпігонах.
- Мастацтва, вядома, ідзе наперад. А за ім — стражнікі.
- Калі персанажамі баек выступаюць адны звяры — значыць, час нялюдскі.
- Часам адзін мазок генія пазначае мяжу паміж эпохамі.
- Не кожны фенікс, які паўстае з попелу, прызнаецца потым, кім ён быў. Вопыт!
- Няшчасны той, хто не бачыць зорак, пакуль яны ад кухталя з вачэй не пасыплюцца!
- Каб быць сабою, трэба быць чымсьці.
- Доўга не мог успомніць слова «гільяціна». Галава пратрэзвала.
- Тых, хто маўчыць, слова не пазбавіш.
- Часцей за ўсё свабоду страчваюць тыя, хто яе прагне.
- Спачатку было Слова. Маўчанне з'явілася потым.
- Ці з'явіцца нарэшце такі Бог, які скажа: «Верце мне», а не: «Верце ў мяне»?
- Змянілі месца жыхарства: пераехалі з Садома ў Гамору!
- Нязменны аргумент высоўвае пігмей: — Асілак мне не ўказ. Я да зямлі бліжэй!
- На катурнах цяжка сыходзіць са сцэны. Асабліва з палітычнай.
- Любімае выслоўе людажэрцаў: «Чалавек — гэта бядла!»
- Панаклейвалі фігавых лісткоў, але напісалі на кожным, што менавіта пад імі хаваецца!
- Адна толькі праўда ў снах — страх!
- І механізм дыктатуры не перпетуум мобіле.
- Справядлівая эпоха: зуб — за зуб, вока — за вока!..
- Што трагедыя, а што камедыя, толькі час дакладна ведае.
- І жыццё чалавека, і час гістарычны — мірг вока Вечнасці. Іранічны.




# "...людзі ў ім — АКЦЁРЫ"

## МАНАЛОГІ У "ІНТЭР'ЕРЫ" СЯМ'І

Напярэдадні свята я была госцяй у тэатральнай сям'і Зоя Белахвосцік — Аляксандр Гарцуеў. Тэатральнай, можна сказаць, у квадраце: Глеб Глебаў — народны артыст Беларусі, дзед, Валянцін Белахвосцік — народны артыст Беларусі, бацька, Валянціна — сямігадовая дэбютантка славутай сцэны, дачка Зоі Белахвосцік — вядучай артысткі тэатра імя Янкі Купалы.

Інтэр'ер кватэры гаспадароў хутчэй нагадвае майстэрню мастака: паўсюль выдатныя, на мой густ, карціны ў стылі непрэтэнцыёзнага авангарда. Гаспадар кватэры Аляксандр Гарцуеў, таксама акцёр-купалавец, папярэдзіў маё пытанне і адказаў, што гэта работы ягонай жонкі Зоі. Дальбог, пра вершы, якія яна піша, я чула, а карціны давялося ўбачыць упершыню. Пакой самой Зоі безварыянтна выдаваў яе прафесію: вялікае люстра стаяла злева ад святла, касметыкі на паліцах значна больш, чым у жанчын, якія не маюць штодзённага дачынення да сцэны ці кінаэкрана. Хаця заўважу, што «в миру» ніколі не бачыла Зою ў грыме а ля папугай Ара.

Пра сябе я адзначыла: вось табе і шчаслівы чалавек, якому ў жыцці шэнціць: прыгожая жанчына, маці, вядомая актрыса, любімая жонка... З першых дзён самастойнай працы — вядучыя ролі ў тэатры, сярод якіх — такія як Паўлінка. Цяпер вось запрасілі ў Беластоцкі тэатр на ролю Сары ў спектаклі «Дзеці меншага Бога» Марка Мэдафа.

Мне падалося, што сёння я прысутнічаю ў свайго роду камерным тэатры, дзе кожны паасобку стварае свой вобраз, выконвае сваю ролю ў п'есе «Сям'я». Нават Валя, іх дачка, маўклівай прысутнасцю нібы трымала своеасаблівы маналог.

І гэтая акалічнасць падказала мне форму падачы прапануемага матэрыялу.

### МАНАЛОГ ЗОІ

*«У нас даўно не было гасцей. З гадамі цяжка нажываць новых сяброў. Тым больш, што сябры — калегі. Кожны дзень у тэатры бачымся, працуем па пяць-шэсць гадзін да ночы. Якая ўжо тут гаворка пра багемнае жыццё! Я люблю чаканых гасцей, каб мець магчымасць падрыхтавацца. Люблю, калі госці — невыпадковыя людзі. Люблю, каб усё за сталом было з'едзена. Гатаваць я таксама люблю, але часцей атрымліваецца снеданне на «хуткую руку». Фірменнага, уласна майго рэцэпта няма. Самы хуткі варыянт — згатаваць тое, што засталося ад учарашняга. Самае ненадакучлівае блюда — бульба. Яна ж часцей за ўсё і застаецца на наступны раз...*

*Не, да катэгорыі эканомных жанчын я не належу. Лічу, што гэтую праблему эканоміі за нас, людзей творчых, «вырашыла» дзяржава. Я называю гэта проста дзяржаўным рэкетам. Адчуваю, што хутка роля Папялушкі ў маім жыцці стане галоўнай: яна балюе гадзіну ў шыкоўных строях, але прабе поўнач і давядзецца пераапранацца ў сваё, не ведаю нават як і назваць гэты гардэроб. Справа ў тым, што мяне пазнаюць на вуліцы. Мяне, актрысу тэатра. І ў такія моманты мне больш за ўсё хочацца выглядаць у лепшых традыцыях Актрысы. Цяпер жа, на жаль, няма тэатральных мецэнатаў, я маю на ўвазе мецэнатаў у высокім сэнсе гэтага слова. Адзінае, што магу прыгадаць: аднойчы ў купалаўскі тэатр завітала галівудская зорка. Дарэчы, цяпер яна ў жыцці бліскуча выконвае ролю жонкі мільянера. І як бывае ў добрых казках, я ёй спадабалася. Не скажу, што мы сталі сяброўкамі, але ж яна заўсёды віншуе мяне са святамі, дасылае падарункі. Нават у Швейцарыю на адпачынак запрасіла разам з сям'ёй. Наіўная, хіба можа сабе дазволіць адпачынак акцёр пры зарплаце сяржанта ДАІ?*

*І ўсё ж такі хочацца думаць, самае цяжкае ў жыцці ўжо адбылося. Я дорага заплаціла за ўсё, нават з лішкам, за набыццё вопыту «як не трэба». Была поўная разгубленасць, пакуль не сустрэла Аляксандра. У той час першы шлюб мой быў ужо скасаваны. На сабе адчула, што гэта такое — быць «рыбкай у акварыуме», калі тваё асабістае жыццё каменціруецца і прагназіруецца ўсім светам. Толькі бацькі вытрымалі экзамен на супертактоўнасць. З тае пары ў мяне адна душэўная сяброўка: маці. Разам з вопытам «як не трэба» сфармавала ў сабе цэлую «палітру» эмоцый. Разумею, што кожны чалавек мае такі вопыт, але хачу зберагчы дачку ад яго, наколькі гэта будзе магчыма. А калі яна будзе актрысай... Бог ёй у помач!*

*Сябе я не ўяўляла нікім больш! Праўда, тут аўтарытэт сям'і не дапамог... Словам, страціла два гады пры паступленні ў тэатральна-мастацкі інстытут. Ды і сёння мне шкада страчанага часу, бо ў актрыс, вядома, год ідзе за тры. Калі ствараю вобраз на сцэне, я пакутую не менш за астатніх калег.*

*А публіка? Гэта асноўная частка такога інстытута, як тэатр. Я люблю публіку, якая прыходзіць на спектакль «Блакітная ружа». Яна — мая. Я адчуваю гэта па рэпліках з глядацкай залы. Можа, таму, што ў жыцці мне падабаецца камернасць, адзіноцтва...*

*Што да сям'і, то пакуль мяне церпяць. Жартую. Можа я стамілася, пастарэла, але люблю быць разам са сваімі блізкімі, і толькі. З кім я — дачка, жонка, маці.*

*Вось Валя сёння не снедала, захварэла. Не ведаю, зёлкамі лекаваць ці таблеткамі? Дзеці, як і мы — акцёры, не хочуць «па-сапраўднаму» хварэць. Сям'я... Я не ведаю, як лепш сказаць... для мяне гэта заўсёды першая роля, дзе кожны дзень —прэм'ера!!»*



### МАНАЛОГ АЛЯКСАНДРА

*«Толькі не думай, калі ласка, што складанасці мужчынскага жыцця лягчэй перанесці. Асабістыя, я маю на ўвазе... Быў перыяд, калі ўсё складвалася так цяжка, што выйсця, як мне здавалася, не было. Я, жанаты чалавек, закахаўся ў каляжанку... Адным словам — «даспяваліся», як цяпер жартуюць у тэатры. Спачатку было вельмі прыстойна: разам спявалі, канцэрты, рэпетыцыі... Зоя пісала вершы, я — музыку. Дарэчы, зараз прачытаю табе некалькі радкоў, якія трапна адлюстроўваюць стан маёй душы таго часу.*

Можа, мы і не дзве палавінкі,
Што сустрэліся выпадкова?
Можа, мы проста часцінкі
Тых, хто не адбыўся?
І наканавана нам
Самота?

*Гэта Зоя разважала на тэму нашай сустрэчы. Вось, бачыш, вынік Сустрэчы — наша дачка, агульны дом. Я, калі хочаш, удзячны Лёсу чалавек. Дадам: калі б хвалёны кодэкс будаўніка камунізму заўчасна не сканаў, — стаяць бы нам на «чырвоным дыване» з зялёненькім па баках.*

*Пытаешся: тэатр ці кіно? Канешне, тэатр! Запішы гэта слова тры разы. У свае трыццаць тры я цяпер разумею, што таксама патрэбен тэатру. Тэатр — элітнае мастацтва, таму я не разумею акцёраў, якія ідуць у вялікую рэжысуру. Можа ад безвыходнасці... Кожны акцёр нашага тэатра — Майстар, але, на жаль, жыве толькі сваім замкнёным асяродкам. Працуем адзін для аднаго. Нас трэба варушыць выдатнай рэжысурай, драматургіяй. Акцёр жа, як матылёк, нястрымна ляціць на святло, якога так не хапае. Вось, паглядзі на гэтую паштоўку. Даслаў нам яе польскі рэжысёр аж з Зямлі абетаванай. Цяпер ён там працуе. Ягоны вялікі творчы вопыт, набыты ў розных тэатрах свету, дае магчымасць параўнаць розныя Школы тэатра. Але менавіта пра купалаўскі тэатр ён піша, што з нашымі акцёрамі можна свет здзівіць! У той жа час, пэўную папулярнасць шмат хто з акцёраў набыў толькі ў кіно. Ты ж разумееш, што гаворка ідзе пра папулярнасць, а не таленавітасць. Кіно для акцёра — своеасаблівая школа рамяства, а папулярнасць — допінг, часам — заробак. Час ідзе, шкада. Тваё пытанне, пра якую ролю мару — смеху варта. Любую — толькі б працаваць, працаваць... Суцешуся думкаю, што Рок, які лунае зараз над нашым тэатрам, мяне не міне, і мне таксама давядзецца на мяжы сямідзесяці-васьмідзесяці гадоў займець пэўнае амплуа, скажам, у стужках на тэму айчыннай вайны, якімі славіцца наш кінематограф.*

*— ........................?*

*— Пра гэта я адказваць не буду.*

*— ........................?*

*— А вось з Пінігіным — заплюшчыўшы вочы! Нават і назву п'есы не запытаў бы. Яго спектаклі — падзея ў тэатры, рэпетыцыі — жывыя.*

*Што мяне хвалюе апошнім часам? Няма тэлефона: калі я затрымліваюся, не магу папярэдзіць Зою. Тады я пачынаю хвалявацца, бо хвалюецца жонка. Хіба не зразумела, дзе можа затрымацца мужчына, напрыклад, пасля лазні? А яна і слухаць не хоча. Я люблю вялікія кампаніі, вясёлыя. У маіх бацькоў — трое дзяцей, я апошні, таму заўсёды быў людскі тлум. Але ён нішто ў параўнанні з мізансцэнай, якая мяне чакае ў калідоры, калі я затрымліваюся.*

*... з цесцем я толькі на «Вы». Калі на свет з'явілася Валя, ён урачыста набыў другую прафесію — «вартаўнік каля дачкі». І цешча, дарэчы, — таксама. Дачку з чатырох месяцаў цягаем за сабой на спектаклі, вырасла ў грымёрных. Цяпер складаней, трэба каму-небудзь па вечарах быць з ёй. Бацькі Зоі ў гэтай сітуацыі — вымушаныя лідэры. Дзякуй ім!*

*Сям'я для мяне?.. паветра, цяпло. Карацей — лад жыцця!»*

Можа, modus vivendi Аляксандра і Зоі будуецца па законах тэатра? Тых законах, па якіх яны жывуць штодзённа, з якімі яны на «Ты». І сёння я была ўдзячным гледачом шчырага спектакля, дзе два прафесійныя акцёры чыталі маналогі пра сваё жыццё на падмостках трохпакаёвай сцэны.

Зрэшты, гэтага і трэба было чакаць, бо даволі даўно і не намі было сказана: «Жыццё — тэатр, а людзі ў ім — акцёры».

Маналогі запісала
Жана ВАСАНСКАЯ.

Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

Культура
ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ШАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ



Адказны сакратар — Віталь ТАРАС
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК),
вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18



Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 11127
Замова 12

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

